ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 19 (2421) 11 мая 1995 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 100 рублёў.

*ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ*

## ЖЫВУ БЕЛАРУШЧЫНАЙ, ТЫМ І ШЧАСЛІВЫ

**16 красавіка Анатолю КЛЫШКУ споўнілася 60 гадоў. Гутарка з юбілярам адбылася напярэдадні падзеі.**

**-- Анатоль Клышка -- пісьменнік, крытык, перакладчык, педагог. У якой з гэтых іпастасяў, здаецца табе, ты ўносіш найбольш важкі ўклад у беларускае адраджэнне!**

-- Сабе цяжка даваць ацэнкі. Магу толькі сказаць: жыву беларушчынай, тым і шчаслівы. Цяпер найбольш часу бярэ пераклад. Рыхтую да друку Евангелле. Яшчэ раней перакладаў са старагрэцкай урыўкі з "Адысеі" Гамера, з "Праметэя" Эсхіла, таксама са старагрэцкай на беларускую пераклажыў раман Лонга "Дафніс і Хлоя", які ўвайшоў у зборнік "Скарбы сусветнай літаратуры".

**-- Адкуль такая цікавасць да антычнай літаратуры! Ці не ад Лапідуса, які на першым курсе філфака знаёміў нас з шэдэўрамі старажытнай культуры!**

-- У мяне цікавасць была і раней. Мой брат вучыўся ў настаўніцкім інстытуце, і ў яго былі тоўстыя хрэстаматыі па зарубежнай літаратуры, а я чытаў іх.

**-- А пераклад з Гамера ўжо выйшаў!**

-- Не, не выйшаў, бо якраз з перабудовай з'явілася магчымасць перакладаць Евангелле, і я ўсё адклаў і пачаў перакладаць Біблію.

**-- А з якой мовы рабіўся пераклад Евангелля, са стараславянскай!**

-- Не. Біблія дзеліцца на дзве часткі -- Стары і Новы запавет. Стары запавет напісаны на стараяўрэйскай мове, а Новы -- на старагрэцкай. Я ўжо быў гатовы к такому перакладу, бо мову гэтую ведаў. Такі значны помнік трэба перакладаць толькі з арыгінала, каб даць адчуць, што гэтай кнізе 2000 гадоў.

**-- Ёсць думка, і святары яе часам выказваюць, і веруючыя, што пераклад святога пісання на беларускую мову немагчымы, бо няма ў гэтай мове сродкаў, каб перадаць царкоўную ўзнёсласць.**

-- Чаму тады яшчэ пры царызме Евангелле можна было перакладаць нават на якуцкую мову і нельга цяпер на беларускую? Пра якія традыцыі можна было гаварыць у якуцкай мове? Да таго ж хачу сказаць, што Евангеллю канцэпцыя ўзвышанасці і не патрэбная. Па-грэчаскі яно напісана на гутарковай мове, [illegible]сць і ўзнёслыя мясціны, але нельга [illegible]цца ўсюды да мовы Евангелля як да ўзнёслай. Бог-Сын нарадзіўся не ў палацы, а з жывёлай, у апосталы ён бярэ рыбака, мытніка...

Самае ж галоўнае, я лічу, што наша мова дастаткова развітая, каб перадаць не толькі сутнасць святой кнігі, але ўсё багацце адценняў мовы Евангелля. Падумаў я, што яшчэ вун[illegible] Багушэвіч пра беларускую мову га[illegible]ў, што яна не горшая за французскую. А тады ж яшчэ не было Купалы, Коласа, Гаруна, Гарэцкага.

**-- Зразумела, твая праца над перакладам Евангелля не даніна модзе. І ўсё ж, каб перакладаць Біблію, неабходна адчуваць нейкую духоўную патрэбу ў гэтым.**

-- Калі падыходзіць з пункту гледжання савецкага...

**- А калі проста з чалавечага!**

-- Не, я хачу сказаць, як дзіўна ўсё пераплятаецца. Дык вось, з савецкага боку. Бедная, малазямельная сям'я ў нас была. Толькі ў 1939 годзе савецкая ўлада нам дала карову. У мяне во цяпер зубы ўсе паляцелі, бо да 4-х гадоў малака не было. Потым вайна, партызаны. Брат быў сакратаром падпольнай камсамольскай арганізацыі, маці -- партызанская сувязная. Ды я і сам, быў час, у ЦК камсамола працаваў. Гэта адна іпастась. А з другога боку, маці [illegible]ая была вельмі набожная. Ужо ў [illegible]рыя гады прызналася, што пас[illegible]а кожную пятніцу, была ўпэўнена, што ў вайну сям'я захавалася -- бацька і два браты -- толькі таму, што Бог дапамог. Жонка мая таксама ведае ўсё святое пісанне, і я ў яе часта кансультуюся.

**-- Мудрасць Евангелля, глыб[illegible]е пранікненне ў яго сутнасць нешта[illegible]бе змяніла як у асобе!**

-- Я і сам часта задумваюся над гэтым. Чаму, думаю, у людзей цяга да спрадвечных каштоўнасцей? Думаю таму, што наша сённяшняе жыццё -- суцэльная мітусня, хістанне ўлева-ўправа. А ў Бібліі каштоўнасці цвёрдыя, трывалыя.

**-- Нездарма зазначана, што кніга гэта вечная, як вечныя ісціны...**

-- Так, сказанае 2000 гадоў назад застаецца вечным. Асобныя думкі выказваліся і да Бібліі. Напрыклад, Платон гаварыў: "Не рабі таго, што не хочаш, каб табе рабілі". А ў Хрыста зусім другое: "Рабі тое, што хочаш, каб табе рабілі". Гэта ўжо актыўная філасофія. Як Гётэ гаварыў: "Лёгка быць маральным, не робячы нічога". У жыцці трэба быць актыўным, і каб у тваіх дзеяннях быў адбітак боскасці.

**-- З біблейскімі ісцінамі цяжка спрачацца нават атэістам. Памятаеш так званы Кодэкс будаўніка камунізму! Тыя ж запаведзі: не забі, не ўкрадзі...**

-- Усё правільна. І для людзей веруючых у ёй усё зразумела, а для атэістаў хацеў бы падкрэсліць, што Біблія ўказвае шлях да выратавання ўсім, нават злачынцам. Калі ўтварыў зло і зразумеў гэта, усвядоміў, што зрабіў памылку, табе даецца магчымасць далучыцца да Бога, хаця гэта і не азначае, што табе ўсё даравана.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## У ПАМЯЦЬ ВЯЛІКАЙ БІТВЫ



**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка прыняў удзел ва ўрачыстасцях па ўвекавечванню памяці ўдзельнікаў вядомай танкавай бітвы пад Прахараўкай на Курскай дузе ў ліпені 1943 года.**

Тут створаны мемарыяльны комплекс, у які ўваходзяць помнік Перамогі на Прахараўскім полі, музей гісторыі праслаўленага бою і праваслаўны храм святых апосталаў Пятра і Паўла. Храм узведзены на народныя ахвяраванні, што паступілі з розных куткоў Расіі і краін СНД. На яго сценах золатам напісаны імёны воінаў, якія загінулі ў баях пад Прахараўкай.

Манумент на Прахараўскім полі створаны ў выглядзе званіцы. Гісторыя народа, яго непераможнасць, вялікая духоўная сіла адлюстраваны ў барэльефах, што ўпрыгожылі велічнае збудаванне. Вобразы Святой Тройцы, Георгія Пераможаносца, курскай іконы Божай Маці размешчаны побач з вобразамі маршала Георгія Жукава і воінаў, якія здзейснілі ратны подзвіг на Прахараўскім полі. Вянчае помнік скульптура Прасвятой Багародзіцы -- заступніцы і ахоўніцы Расіі. Храм Пятра і Паўла і помнік Перамогі на Прахараўскім полі асвяціў Свяцейшы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Аляксій II.

НА ЗДЫМКУ: наведванне храма Пятра і Паўла Прэзідэнтам Беларусі А. ЛУКАШЭНКАМ.

ЗАВЯРШАЕЦЦА ПЕРАДВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ

## НАРОД РАЗГУБЛЕНЫ? НАРОД У РОЗДУМЕ?

**І вось ужо на гарызонце замаячыў фініш: хутка, вельмі хутка, 14 мая, дзень выбараў у новы беларускі Вярхоўны Савет. Але ўсё часцей гучаць галасы тых, хто не верыць у блізкі фініш, хто ўпэўнены, што ён разам з гарызонтам аддаляецца па меры набліжэння да яго. І, сапраўды: то старшыня Цэнтрвыбаркома А.Абрамовіч заяўляе, што ўрад не дае грошы, неабходныя для арганізацыі выбараў, то, калі гэтыя грошы нібыта ўжо выдзелены, яны не даходзяць да канкрэтных адрасатаў. А ўлады, каб "забяспечыць роўныя магчымасці для ўсіх", "забяспечваюць" натуральны інфармацыйны вакуум. У выніку народ, які ўжо расчараваўся ва ўсім і ва ўсіх, можа палічыць за лепшае садзіць агароды ў вёсцы і на дачах, чым марнаваць час на наведванне выбарчых участкаў: так хоць з бульбай і буракамі будзеш узімку. Але, як бы там ні было, перадвыбарчая кампанія ўсё ж такі ідзе і, у адрозненне ад саміх выбараў, даволі шпарка набліжаецца да свайго заканчэння. Яе ход можна ацэньваць па-рознаму, але асабіста я згодна са сцвярджэннем, што яна ў пэўным сэнсе унікальная. Памятаю папярэднія выбары -- і ў апошні Вярхоўны Савет СССР, і ў беларускі парламент, які зараз складае свае паўнамоцтвы. Колькі нарабілі тады ў грамадстве шуму, тлуму і хваляванняў. Сёння ж не здзіўлюся, калі значная частка нашых грамадзян і не падазрае, што выбары адбудуцца вось-вось. Дарэчы, пра гэта гавораць і нашы сённяшнія суразмоўцы, людзі, якія непасрэдна вырашылі браць удзел у цяперашняй, крыху незразумелай выбарчай кампаніі.**

**Валянціна ПАЛЕВІКОВА, лідэр жаночай партыі "Надзея", будзе балаціравацца ў адной з мінскіх выбарчых акруг -- на ўскраіне горада, у вялікім жылым масіве Кунцаўшчына. Як яна сама кажа, "альтэрнатыва" на выбарах у яе -- 11 чалавек, якія таксама змагаюцца за галасы кунцаўшчынскіх выбаршчыкаў. Таму атрымаць перамогу -- справа няпростая. Шмат тут залежыць ад арганізатараў выбарчай кампаніі, ад умоў, у якія ставяцца як выбаршчыкі, так і кандыдаты на парламенцкія крэслы. З чым жа сутыкнулася Валянціна Палевікова!**

-- Адразу хачу зазначыць, што ў маёй акрузе сярод усіх кандыдатаў на дэпутацкі мандат я -- адзіная жанчына. Але, як ні дзіўна, лічу гэты факт выйгрышным для сябе.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ПЕРАД ВЫБАРАМІ*

## МІЖНАРОДНЫЯ НАГЛЯДАЛЬНІКІ

**У адпаведнасці з падпісанай Беларуссю Парыжскай хартыяй, а таксама іншымі дакументамі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ) і па запрашэнню Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь краіны -- члены АБСЕ, адпаведныя міжнародныя, недзяржаўныя і прыватныя арганізацыі прышлюць на выбары ў парламент Беларусі сваіх афіцыйных наглядальнікаў.**

**28 красавіка Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека пры АБСЕ адкрыла ў Мінску часовы цэнтр, мэта якога -- каардынацыя дзейнасці наглядальнікаў і збор інфармацыі аб выбарах у Вярхоўны Савет Беларусі.**

*ПЕРШАМАЙ*

## ВЫРВАЦЦА З БЕЗДАНІ

**Цяпер не час займацца высвятленнямі, хто вінаваты, таму што эканоміка краіны літаральна пакладзена на лапаткі, сказаў старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімір Ганчарык з нагоды Дня працы і Мая, які адзначаўся сёлета сціплымі мітынгамі і маёўкамі. Бяздзейнічаюць больш за трэць прадпрыемстваў, яшчэ столькі ж заводаў і фабрык рэспублікі адправілі свае працоўныя калектывы ў бестэрміновыя водпускі. А склады загружаны прадукцыяй, цэны на якую амаль на 30 працэнтаў перавышаюць сусветныя. У такіх умовах грамадству патрэбна стабільнасць, каб сабраць усе сілы для рыўка з эканамічнай бездані.**

*"Узлюбленыя браты і сёстры!*

*Перамога, якой споўнілася 50 год, сведчыць аб заканчэнні толькі зямных бітваў. Але не станем забывацца на тое, што нябачная бітва не слабне і цяпер! Бо і дагэтуль з цяжкім сэрцам бачым мы, як намагаюцца ўнесці разлад у нашае жыццё нястомныя сілы зла. Госпад зноў пасылае нам выпрабаванні, бо грамадства цяпер спустошана нявер'ем, адлучанасцю ад Хрыста-Збавіцеля і Яго Царквы, спакуш[illegible]цца ўладай, хцівасцю, гвалтам, а самі мы [illegible]глыя ад сумніваў у непахіснасць Божае волі. Памілуй нас, Госпадзе, памілуй нас!*

*Для нас, дзяцей Царквы, адным з урокаў Перамогі з'яўляецца бясспрэчнае перакананне ў тым, што мы толькі тады жывем, толькі тады ўсведамляем, што жывем не дарэмна і што існуе найвышэйшая мэта і сэнс нашага зямнога шляху, -- калі ў дабраладдзі св[illegible]мы "стаім у Госпадзе", калі міласць і [illegible]а, праўда і мір напаўняюць нас. Таму мы павінны быць удзячныя Госпаду, што належым народу, здольнаму на вялікае самаахвяраванне.*

*Вечная памяць бацькам, матулям, братам і сёстрам нашым, што аддалі жыццё сваё за другаў сваіх. Гонар, удзячнасць і ўсю пашану прынясем жывым удзельнікам вялікай вайны. Уратуй іх, Божа!"*

*(З Паслання Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага ФІЛАРЭТА, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі ў сувязі з 50-годдзем Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941--1945 гадоў).*

*ДОНАРСТВА*



**Тысячы выратаваных жыццяў на рахунку супрацоўнікаў аддзялення пералівання крыві Мінскай абласной клінічнай бальніцы. За год тут нарыхтоўваецца 1 500 літраў неацэннай вадкасці. Яна перапрацоўваецца на кампаненты, з яе вырабляецца свежазамарожаная плазма. Усе неабходныя лабараторныя даследаванні праводзяцца на месцы, што дазваляе кожнаму хвораму падбіраць індывідуальнага донара.**

**Супрацоўнікі аддзялення на чале з загадчыцай таксама рэгулярна здаюць кроў, нярэдка прыходзяць на дапамогу хворым і ў экстранных выпадках. І, бывае, гэта ратуе чалавека.**

**НА ЗДЫМКУ: у апецыяльнай аддзялення пералівання крыві супрацоўніца Нэла НАКАНЕЧНАЯ (злева) і аперацыйная медсястра Валянціна ТУРБІНСКАЯ ў час прыёму крыві ў донара.**

*"Мяне вельмі турбуе іншае -- у што выльецца для працоўнага люду змена дзяржаўнай сімволікі (калі будзе прынята такое рашэнне). Хіба мы такія багатыя, каб, напрыклад, лёгка кінуць пад нож ці ў касцёр аддрукаваныя, але не ўручаныя нам пашпарты -- збаёдаць агромністыя сумы ў валюце? І трэба ж будзе друкаваць новыя -- зноў давядзецца траціць мільёны даляраў. А бланкі, пячаткі, пасведчанні, шыльды, кукарды, значкі, плакаты, буклеты, паштоўкі, маркі і г. д. і да т. п. -- грошы, грошы, грошы, грошы... І ўсё з кішэні грамадзян, з таго небагатага заробку падаткаплацельшчыкаў, якога ледзьве хапае на хлеб і цукар. Незразумелая палітычная логіка: просім людзей пацярпець недахоп цяпла ў кватэрах, электрасвятла на начных вуліцах і не просім пацярпець сцяг і герб, пад якімі наш першы Прэзідэнт кляўся дбаць аб дабрабыце народа. Чаму такая нервовая спешка?.. Заўважце, лічбы выдаткаў, якія пацягне за сабой змена сімвалаў, нікім не называюцца, нідзе не публікуюцца. Відаць, каб не выклікаць у людзей яшчэ адзін шок. Дык ці варта падтрымліваць няўзважаныя і, як кажуць фінансісты, непралічаныя прапановы?"*

*Генадзь БУРАЎКІН.*

*ДЭМАГРАФІЯ*

## КОЛЬКІ НАС?

**Насельніцтва рэспублікі зменшылася за год на 22 тысячы чалавек і склала 10 мільёнаў 297 тысяч. 69 працэнтаў з іх цяпер пражываюць у гарадах і гарадскіх пасёлках, а 31 працэнт -- у сельскай мясцовасці.**

**У Мінску налічваецца 1 мільён 694 тысячы чалавек. Самыя населеныя гарады -- у Мінскай, Гомельскай і Магілёўскай абласцях. Менш за ўсё гарадскіх жыхароў на Гродзеншчыне. Што датычыць сельскага насельніцтва, то яго больш за ўсё ў Мінскай і Брэсцкай абласцях. Менш за ўсё вяскоўцаў на Магілёўшчыне і Гродзеншчыне.**

*ТАЛЕНТЫ І ПАЦЫЕНТЫ*

## 70-я АПЕРАЦЫЯ

**У другім кардыяхірургічным аддзяленні 4-й гарадской клінічнай бальніцы Мінска 10 красавіка зроблена 70-я ў гэтым годзе апер[illegible]ыя па імплантацыі штучнага клапана сэрца. За [illegible] гады пасля клінічных яго выпрабаванняў бе[illegible]рускія хірургі вярнулі да поўнай жыццядзейнасці больш за 500 хворых, што пакутавалі на рэўматычны парок сэрца.**

**Каля трох тысяч хворых штогод маюць патрэбу ў такіх аперацыях. На жаль, у клініцы іх праводзяць толькі трохі больш за 150 у год. Адна з асноўных прычын -- адсутнасць неабходных сродкаў для набыцця айчыннага імплантатара.**

## З КАРАБЛЯ НА БАЛЬ

**У галоўным клінічным шпіталі Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь праведзена унікальная аперацыя -- відэатаракаскапічная. Сутнасць яе ў тым, што праз разрэз у грудной поласці даўжынёй усяго 5--6 сантыметраў (замест 30) у хворага выдалілі частку лёгкага. На наступны дзень пасля аперацыі хворы ўжо стаў на ногі, а праз тыдзень выпісаўся са шпіталя.**

*ЭНЕРГЕТЫКА І ЭКАЛОГІЯ*

## З ДАПАМОГАЙ ІТАЛЬЯНЦАЎ

**Шэсць беларускіх прадпрыемстваў розных галін народнай гаспадаркі -- ВА "Азот", АТ "Барымак" і "Керамін", мінскія заводы шасцерняў і радыятарны, а таксама Барысаўскі крыштальны завод -- прайшлі абследаванне ў рамках праекта "Беларусь": энергетычныя і экалагічныя аудзіты прамысловых прадпрыемстваў". Абследаванні праводзіліся спецыялістамі трох італьянскіх фірм "СМП", "ІНЕА", "ІРМ" і фінансаваліся італьянскім міністэрствам фінансаў праз Траставы фонд. Распрацаваны шэраг мерапрыемстваў па эканоміі энергіі і паляпшэнню экалогіі гэтых вытворчасцей.**

*СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ*

## ТРЭЦІ КАСМАНАЎТ

**Акрамя вядомых Пятра Клімука і Уладзіміра Кавалёнка, Беларусь можа ганарыцца і сваім трэцім касманаўтам -- Аляксандрам Шчукіным, пра якога стала вядома толькі нядаўна. Яго маці родам з вёскі Сізоў Кармянскага раёна. На радзіму маці неаднаразова прыязджаў і сам А. Шчукін. На жаль, лёс касманаўта-даследчыка закончыўся трагічна: ён загінуў пры выпрабаванні лятальных сістэм.**

## ГІПОТЭЗА ЦІХАВА

**У ліку тых, хто стаяў ля вытокаў пошуку жыцця ў Сусвеце, быў і ўраджэнец пасёлка Смалявічы, што пад Мінскам, потым вядомы астраном Гаўрыіл Андрыянавіч Ціхаў, якому 1 мая споўнілася б 120 гадоў.**

**Заняўшыся вывучэннем Марса, ён выказаў гіпотэзу аб падабенстве зямных раслін, што растуць ва ўмовах суровага клімату, з гіпатэтычнымі марсіянскімі. І хоць пытанне аб існаванні жыцця на "чырвонай планеце" сёння выглядае даволі праблематычным, касманаўты, якія прыляцяць на Марс, пабываюць у кратэры, названым у гонар ганаровага акадэміка АН Беларусі Гаўрыіла Ціхава.**

# ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Людзі зямлі беларускай!

14 мая на рэферэндуме мы павінны будзем выказаць свае адносіны да моўнай палітыкі. У самыя змрочныя часы, у перыяд сталінскай беззаконнасці Вярхоўны Савет БССР ужо хацеў унесці змены ў Канстытуцыю, зацвердзіць у Беларусі дзяржаўнасць рускай мовы. Спасылаючыся на "требования самих трудящихся", улады змагаліся тады з "врагами народа, которые насильно хотели оторвать белорусскую культуру от русской" ("Правда", 27 июля 1938 года). Нешта падобнае нам цяпер прапануюць зрабіць уласнымі рукамі.

Палітыка занядбання беларускай мовы ў апошнія дзесяцігоддзі прывяла да таго, што сфера яе ўжывання звузілася да небяспечных памераў. К канцу 80-х гад у гарадах Беларусі не засталося ніводнай беларускай школы, зусім не было беларускамоўнага выкладання ў ВНУ. У 1987 годзе выдавецтва "Полымя" выпусціла беларускамоўнай літаратуры ў 382 разы менш, чым рускамоўнай; выдавецтва "Ураджай" -- у 533 разы.

Але ж хіба ў беларускай вёсцы беларусаў жыве ў 533 разы менш, чым рускіх? Хіба ўсе яны выракліся роднай мовы? Не, у 1989 годзе беларускую мову назвалі роднай 80 працэнтаў беларусаў, а таксама 29 885 рускіх, 266 790 палякаў, 17 016 украінцаў, 2 388 яўрэяў.

Неабходнасць абараніць родную мову, выратаваць яе прывяла 5 гадоў таму назад да прыняцця Закона аб мовах. Падобныя законы былі зацверджаны ў 1989--1990 гадах ва ўсіх без выключэння рэспубліках Савецкага Саюза.

Падтрымліваючы эканамічныя адносіны з Расіяй, ні Украіна, ні Казахстан, аднак, не прызналі ў сябе афіцыйнага статуса за рускай мовай. У з"яднаным еўрапейскім супольніцтве не ставіцца пытанне аб агульнай мове; наадварот, і французы, і шведы, і галандцы, і іншыя народы вельмі цэняць сваю непаўторнасць. Імкненне захаваць свае родныя мовы ўласціва ўсім народам свету.

А што ж мы, браткі-беларусы? Хто ў нас возьмецца абараніць мову, якая гучыць на нашай зямлі спрадвеку? Няўжо беларуская мова -- гэта нешта **не наша!** А тады **чыё!**

Усе мы хацелі б жыць, як "ва ўсім цывілізаваным свеце". Але ці здольныя мы -- як ва ўсім цывілізаваным свеце -- умець пастаяць за сваё? Ці разумеем мы, што **першы пункт рэферэндуму вызначае будучыню беларускай, а не рускай мовы!** Няўжо ў нас знаходзіцца ў небяспецы руская мова?

Вырашаць шляхам галасавання лёс роднай мовы -- амаральна. Гэта тое самае, як абмяркоўваць "праблему", ці трэба любіць і шанаваць сваіх старых і нямоглых бацькоў. Яны ж, можа, таксама "неперспектыўныя". Чаму б і іх будучыню не вызначыць пры дапамозе выбарчых бюлетэняў?

Напярэдадні рэферэндуму некалькі разоў было парушана існуючае заканадаўства. У адпаведнасці з 3-м артыкулам Закона аб народным галасаванні пытанне аб мове не можа выносіцца на рэферэндум. 148-мы артыкул Канстытуцыі не дазваляе Вярхоўнаму Савету змяняць яе на працягу апошніх шасці месяцаў сваіх паўнамоцтваў. Заплюшчым на гэта вочы? Але ці не прывядзе ў будучыні наш маўклівы дазвол парушаць законы да новых, яшчэ больш сур"ёзных парушэнняў? Жадаючы рухацца наперад, ці не вернемся мы назад, у 1938-мы год?

Падумаем: каму выгадна правядзенне рэферэндуму? Напэўна, яго ініцыятару -- Прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку. Але калі Прэзідэнта сапраўды цікавіць наша думка, то чаму ён не хоча запытацца ў нас, што мы думаем пра выкананне ім сваіх галоўных перадвыбарчых абяцанняў?

Шаноўныя суайчыннікі!

**Закрэслівайце абодва адказы ў першым пункце бюлетэня па рэферэндуму!** Гэтым вы абароніце беларускую мову і паспрыяеце захаванню згоды і міру ў нашым грамадстве.

**Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.**

*25 красавіка 1995 года.*

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

# НАРОД РАЗГУБЛЕНЫ? НАРОД У РОЗДУМЕ?

Жыву таксама ў мікрараёне Курасоўшчына, да таго ж шаснаццаць год працавала ў навукова-вытворчым аб'яднанні "Гранат", якое знаходзіцца тут побач, і дзе працуюць многія з тых, за чые галасы я змагаюся. Між іншым, апошнія тры гады работы на "Гранаце" я была старшынёй прафсаюзнага камітэта, такім чынам, праблемы і клопаты працоўнага чалавека ведаю не па чутках.

*— Каго асабіста вы вылучылі б як свайго асноўнага канкурэнта?*

— Хутчэй за ўсё ім будзе вылучэнец Беларускага народнага фронту. Сітуацыя аб'ектыўна складваецца так, што мой галоўны "аргумент" у перадвыбарчай барацьбе — гэта як мага шырэй весці агітацыю і тлумачэнне сваёй праграмы, наогул праграмы нашай жаночай партыі "Надзея", што рабіць вельмі няпроста і забірае шмат сіл. Прадстаўнік жа БНФ можа гэтага і не рабіць, сканцэнтравацца на іншым: у грамадстве высокі імідж самога БНФ.

*— Колькі ўвогуле чалавек вылучыла на парламенцкія выбары ваша партыя?*

— Трыццаць чатыры, зразумела, усе жанчыны, але, на жаль, большасць нашых кандыдатаў жывуць і працуюць у сталіцы - не паспелі мы добра папрацаваць з правінцыяй, хаця імкнуліся... Магчыма, не хапіла часу... Але тыя, хто ўсё ж такі зарэгістраваны выбарчымі камісіямі, людзі адукаваныя, кваліфікаваныя і з вялікім жаданнем працаваць, каб урэшце нешта пачало мяняцца да лепшага і ў нас.

*— Вось вы кажаце "не хапіла часу". А ўсяго астатняга, што павінен мець кандыдат у дэпутаты, хапіла? Напрыклад, грошай, якія па ўказу Прэзідэнта выдзяляюцца на перадвыбарчую агітацыю, — шасцісот тысяч "зайчыкаў"? Каб нашым чытачам была больш зразумелай "велічыня" гэтай сумы, удакладню, што сёння ў Беларусі 1 долар каштуе 11,5 тысячы беларускіх рублёў.*

— Я пакуль яшчэ з гэтымі грашыма нічога не паспела зрабіць. На што іх хопіць? Магчыма на агітацыйныя лістоўкі, даволі сціплыя, безумоўна. На 6—10 тысяч такіх лістовак, якія, дарэчы, вывешваць можна ў вельмі абмежаваных месцах — у асноўным у гандлёвых вітрынах.

*— Як арганізуюцца сустрэчы з выбаршчыкамі, дзе?*

— Так атрымалася, што я толькі іх пачынаю. Вельмі цяжка знайсці месца, дзе можна было б сабраць людзей і пагутарыць. Ды і наогул размаўляць з рабочымі нялёгка. Нядаўна па службовых справах я была на заводзе друкаваных плат. Толькі перад гэтым на прадпрыемстве абвясцілі аб скарачэнні штата на 25 працэнтаў. Потым прыйшла ў дзіцячы сад — а там загадчыца ўпрошвае персанал "пацярпець": зноў затрымліваецца выплата і так мізэрнай заработнай платы — і не на дзень—два, а на два—тры тыдні.

Адсюль у людзей нараджаецца не проста незадаволенасць уладай, але нярэдка нават і агрэсіўнае стаўленне да яе. І вось у такой сітуацыі я прыходжу на сустрэчу з выбаршчыкамі. І чым магу сёння ім дапамагчы? Чым, калі ўвесь эканамічны механізм краіны цяжка хворы, а лячэнне вядзецца вельмі і вельмі марудна і неэфектыўна? Хіба што пазычыць грошай... І яшчэ папрасіць, нягледзячы ні на што, усё ж такі прыйсці на свой выбарчы ўчастак 14 м[ая].

Пераконваць у адварот[нам] такіх людзей вельмі цяжка. Але я стараюся гэта рабіць і разам з тым імкнуся, каб нікога не абразіць. Нікога. Вось пасля такой сустрэчы прыходжу дадому, уключаю тэлевізар — выступае наш Прэзідэнт. І што чу[ю]? Прэзідэнт на ўсю краіну ка[жа], што не будзе галасаваць, бо дэпутаты "ўсё роўна падмануць"... Я была проста абурана. Як кіраўнік дзяржавы мог сабе дазволіць такое?! Гэта ж фактычна азначае пачатак канфрантацыі з яшчэ не выбраным Вярхоўным Саветам! Я такіх падыходаў не прымаю. Наша партыя, наадварот, ставіць сваёй мэтай кансалідацыю, яднанне, і мы ад гэтага не адмовімся. Хаця такія выпады Прэзідэнта проста падштурхоўваюць нас да апазіцыі яму.

**Наступны наш субяседнік — чалавек у палітыцы ўжо вельмі вопытны, пабачыў у ёй многае. Алег ТРУСАЎ, дэпутат Вярхоўнага Савета, актыўны ўдзельнік парламенцкай апазіцыі, лідэр партыі Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада.**

**Першае пытанне Алегу Трусаву ў нечым і рытарычнае, але, як мне здаецца, надзённае — ці задаволены ён ходам перадвыбарчай кампаніі!**

— Вядома, не задаволены. Усё зроблена так, каб выбары не адбыліся, а калі і адбыліся, то каб дэмакраты на іх не перамаглі.

Нярэдка сутыкаюся з тым, што людзі нават не ведаюць дату выбараў. Выбарчыя ўчасткі, як звычайна, арганізуюцца ў мясцовых школах. Але ў маёй выбарчай акрузе ні ў адной з вылучаных для гэтага школ няма нават абвесткі — "прыходзьце на выбары". Людзі не ведаюць, колькі чалавек вылучаецца, не ведаюць іх праграм. У кандыдатаў проста няма магчымасці давесці ўсё гэта да сваіх выбаршчыкаў. Лістоўкі можна расклейваць толькі на сямі стэндах ва ўсёй акрузе. Прыклеіш — праз гадзіну іх ужо нехта здзірае. Іншай інфармацыі няма: радыё маўчыць, тэлебачанне маўчыць, газеты маўчаць. А яшчэ, калі і Прэзідэнт заявіў, што на выбары не пойдзе, — гэта што ж такое?! Сапраўднае парушэнне Канстытуцыі — заклік байкатаваць выбары.

Мой прагноз такі: першы тур адбудзецца, дзякуючы рэферэндуму, другі хутчэй за ўсё не адбудзецца, што, як мне здаецца, і патрэбна Прэзідэнту.

*— У якім выпадку можна збіраць першую сесію новага Вярхоўнага Савета?*

— Калі абрана 2/3 ад агульнай колькасці парламентарыяў. Але, лічу, у першым туры атрымаюць "прахадны бал" чалавек 20—30. Баюся, што выбары могуць скончыцца толькі зімой.

*— Ці шмат сустрэч маеце вы з вашымі патэнцыяльнымі выбаршчыкамі?*

— Даволі шмат. Звычайна па дзве кожны дзень.

*— Дзе яны адбываюцца?*

— У розных месцах, але найчасцей у школах.

*— І ніякія перашкоды вам не чыняцца?*

— Асабіста мне — не. Бо школьныя работнікі добра ведаюць маю пазіцыю ў адносінах да настаўнікаў, мае намаганні ў парламенце, каб адстойваць іх інтарэсы. І хаця многія дырэктары школ не падзяляюць маіх палітычных поглядаў, але не адмаўляюць у дапамозе, прадастаўляюць памяшканні. Даводзілася нават чуць і такі "аргумент" на сваю карысць: вы — чалавек вядомы, мэблю не паламаеце. А вось астатнім, каго не ведаюць, даводзіцца значна цяжэй. Пра што гэта гаворыць? Пра тое, што перадвыбарчая кампанія пушчана на самацёк. Бывае, што некаторыя адміністратары патрабуюць грошы за такую "арэнду" сваіх памяшканняў. Але трэба аддаць належнае Мінскаму гарадскому выканкому: ён выдаў загад, які забараняе браць плату з кандыдатаў у дэпутаты за выкарыстанне па[мяш]канняў для сустрэч з выбар[шчы]камі ў школах і прафесійна-тэхнічных вучылішчах.

*— Ці ведаеце вы нешта пра сваіх сапернікаў?*

— Трохі ведаю. Ёсць сярод іх адзін прадстаў[нік] [Л]ДПБ, ёсць вельмі актыўн[ы х]лопец з грашыма, які называе сябе прыхільнікам БНФ, хаця БНФ яго не вылучаў, і цяпер ён імкнецца "адбіць" частку майго электарату. Збіраюць на сустрэчы ў дварах камуністы. Дарэчы, іх кандыдат сабраў толькі крышку меней подпісаў у падтрымку, чым я.

*— Хіба вам для рэгістрацыі патрэбна было збіраць подпісы?*

— Фармальна — не, таму што мяне вылучаў дэмакратычны блок, які меў для гэтага ўсе падставы. Але я вырашыў для сябе так: калі за мяне не збярэцца 500 подпісаў простых грамадзян, я, хаця і лідэр партыі, удзельнічаць у выбарах не буду. але сабралі не 500, а 1 171 подпіс. Мне было гэта прыемна.

*— Ці шмат кандыдатаў вылучыла Грамада?*

— Нямала. Прыблізна чалавек семдзесят. Але, калі пройдзе чалавек 15—20, будзе добра. Між іншым, з кожным кандыдатам заключана пісьмовая дамова, што, калі яго выберуць у парламент, то ён, вобразна кажучы, не здрадзіць партыі.

*— Вы лічыце, што гэта...*

— ...Гэта маральны фактар.

*— А, можа, маральны ўціск?*

— Не, проста мы ўжо маем сумны вопыт у тым парламенце, што адыходзіць.

*— А калі чалавек парушыць дамову?*

— Тады апублікуем гэтае пагадненне ў прэсе. А для палітыка згубіць маральны твар вельмі небяспечна. Дарэчы, Грамада падчас прэзідэнцкіх выбараў заключыла такое пагадненне са Станіславам Шушкевічам. Я думаю, яно і зараз мае пэўную сілу. Між іншым, і дагэтуль у нас з Шушкевічам цудоўныя адносіны.

*— Дэмакратычны блок, куды ўваходзіць і Грамада, вылучаў кандыдатаў скаардынавана, не пераходзячы дарогу адзін аднаму?*

— У асноўным так. Хаця ёсць некалькі акруг, дзе мы не прыйшлі да згоды. Але іх няшмат.

*— Ці плануюцца на выбарах назіральнікі?*

— Так, будуць. Замежных — няшмат. А сваіх, ад партый, — дастаткова. Мы да выбараў падыходзім вельмі сур'ёзна, бо для нас гэта, бадай, апошняя магчымасць дэмакратычным шляхам змяніць існуючае становішча.

**Матэрыял падрыхтавала Галіна УЛІЦЁНАК.**

## НОВЫЯ РАДОВІШЧЫ НАФТЫ



**Два новыя радовішчы нафты адкрылі ў гэтым годзе работнікі Мазырскай нафтаразведачнай экспедыцыі глыбокага бурэння. Гэта Паўднёва-Давыдаўскае і Паўночнае Чысталужскае.**

**Летась беларускія нафтавікі адзначылі 30-годдзе з моманту адкрыцця першага радовішча нафты ў раёне Рэчыцы. Увесь гэты час геолагі бураць новыя свідравіны, якія штогод даюць рэспубліцы 2 мільёны тон нафты.**

**НА ЗДЫМКАХ: Паўночнае Чысталужскае нафтавае радовішча; буравікі кантралююць працэс бурэння нафтавай свідравіны на Паўднёва-Давыдаўскім месцараджэнні.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

## РЫХТУЕЦЦА ЗАМАХ НА А. ЛУКАШЭНКУ

Невядомы паведаміў, нібыта рыхтуецца замах на Прэзідэнта нашай рэспублікі Аляксандра Лукашэнку. Замах павінен адбыцца ў час сустрэчы кіраўніка дзяржавы з Прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным, якая адбудзецца, па тых жа звестках, у Смаленску.

Ананімнае пісьмо вечарам 2 мая знойдзена на падаконніку таможнага паста ў вёсцы Заольша Лёзненскага раёна.

На тэрыторыі раёна, як вядома, ужо быў здзейснены замах на Аляксандра Лукашэнку ў час яго перадвыбарнай паездкі па Віцебшчыне.

## ВЫСОКАЯ ПАСАДА

У Жэневе праходзіць 48-я сесія Сусветнай асамблеі аховы здароўя.

На сесіі разглядаецца шэраг пытанняў, што маюць прынцыповае значэнне для рэспублікі: выкананне праграмы "Здароўе для ўсіх да 2000 года", чарнобыльскія праекты і праграмы, пытанні аховы мацярынства і дзяцінства. Упершыню ў гісторыі асамблеі міністр аховы здароўя Беларусі Інеса Драбышэўская абрана першым віцэ-старшынёй гэтага прадстаўнічага форуму.

ПРАВІНЦЫЙНАЯ Вілейка апошнім часам даволі часта згадваецца ў нашых сродках масавай інфармацыі. І вось з якой нагоды. Ля будынка турмы (цяпер абласны анкалагічны дыспансер), сцены якой помняць удзельнікаў паўстання 1863--1864 гадоў, палітычных зняволеных перыяду акупацыі Польшчы, расстрэлы "ворагаў народа" ў 1939--1941 гадах, зверствы нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941--1944 гадах, пачалося будаўніцтва лячэбнага корпуса анкалагічнага дыспансера.

Тады, у лістападзе 1994 года, і былі выяўлены першыя невядомыя пахаванні. Акрамя будаўнікоў і вузкага кола мясцовых кіраўнікоў, пра іх больш ніхто не ведаў. Спрацаваў стары правераны прынцып: "А можа пранясе!" Не пранесла. Чым больш разварочваўся фронт земляных работ, тым больш выяўлялася пахаванняў.

Практычна штомесяц чалавечыя астанкі з'яўляліся на паверхні, але мясцовыя ўлады не

Калі ўлічыць, што са спраў, якія разглядалі так званыя несудовыя органы, у сярэднім да вышэйшай меры пакарання прыгаворвалася не менш 45 працэнтаў арыштаваных, то толькі па Вілейцы ў перыяд з верасня 1939 па чэрвень 1941 года да расстрэлу было прыгаворана не менш 1 тысячы чалавек. Насельніцтва ў горадзе па стану на верасень 1939 года складала 7,5 тысячы чалавек. Зыходзячы толькі з гэтага, можна меркаваць, што ў пахаванні знаходзяцца астанкі не менш, чым тысячы чалавек.

Адзін з мясцовых жыхароў Г. расказаў мне, як у 1939--1940 гадах выконваліся прыгаворы ў адносінах да "ворагаў народа". Асуджаных па аднаму заводзілі ў спецыяльна выкапаную на тэрыторыі цяперашняга будаўніцтва зямлянку і душылі з дапамогай скуранога рэменя. Потым ахвяры закопвалі ў яме ў двары турмы.

Сотні жыхароў Вілейкі і вобласці да гэтага часу лічацца прапаўшымі без вестак пасля пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Куды яны маглі бясследна знікнуць? На іх лёс могуць праліць святло

*ЧАМУ МЫ ТАКІЯ?*

# ВІЛЕЙСКАЯ ТРАГЕДЫЯ

надавалі гэтаму асобага значэння. І па ўказанню адпаведных інстанцый згодна з педантычна складзенымі актамі рабілася чарговае "перапахаванне". Ніякай эксгумацыі, натуральна, не рабілася.

## ВЫПІСКА З АКТА 28.12.94 г.

**Мы, хто ніжэй падпісаўся: галоўны ўрач дыспансера, прараб, інжынер УКС, урач-паталагаанатам, склалі гэты акт у тым, што з 9 лістапада па 22 снежня 1994 года пры будаўніцтве аб'екта -- лячэбнага корпуса на 100 ложкаў пры распрацоўцы грунту выяўлены касцявыя астанкі невядомых людзей на глыбіні 1,5--2,9 метра, па неўдакладненых даных у колькасці 29, якія змешчаны ў 2 драўляныя скрыні, што падлягаюць перапахаванню.**

**Подпісы.**

Як толькі ў сакавіку 1995 года гэтыя факты былі апублікаваны, кампетэнтныя органы адразу ж заявілі, што гэта ахвяры масавых расстрэлаў, ажыццёўленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў перыяд 1941--1944 гадоў. Тым самым адразу адхіляліся ўсе іншыя версіі аб тым, хто мог знаходзіцца ў гэтым пахаванні за двухсотгадовую гісторыю вілейскай турмы.

Так, сапраўды, па розных крыніцах, у перыяд акупацыі нямецка-фашысцкія захопнікі знішчылі ў Вілейцы ад 6 да 8,5 тысячы мірных жыхароў. Ёсць і паказанні сведак, якія былі апублікаваны ў кнізе "Злачынствы нямецка-фашысцкіх акупантаў у Беларусі (1941--1944 гады)", (Мінск, 1965 г.). У іх выразна зафіксавана, што расстрэлы рабіліся ў радыусе паўтара кіламетра вакол турмы.

Хіба пра гэта не ведалі мясцовыя ўлады, калі праводзіліся вышукальныя і праектныя работы па будаўніцтву новага корпуса дыспансера? Гэтую кнігу мне паказаў не хто-небудзь, а галоўны ўрач анкалагічнага дыспансера Г.Гудзелеў. Значыць, ведалі і, нягледзячы на гэта, далі дазвол на правядзенне будаўнічых работ. І нават, калі неаднаразова выяўляліся новыя і новыя пахаванні, тэмпы будаўнічых работ усё больш узрасталі і працягваюцца да гэтага часу. Экскаватар працуе бесперабойна.

Але ў вілейскім пахаванні знаходзяцца ахвяры не толькі нямецка-фашысцкіх захопнікаў, але і тыя, хто быў расстраляны ў 1939--1941 гадах органамі НКУС як "ворагі народа". І калі пра ахвяры фашызму мы ведаем з 1944 года, то пра ахвяры сталінізму да сённяшняга дня працягваюць замоўчваць з вядомай упартасцю.

Перагартаем некаторыя старонкі нашай гісторыі... У верасні 1939 года ў Вілейку ўвайшлі перадавыя часці Чырвонай Арміі. А следам за ёю -- войскі НКУС, якія адразу пачалі сваю "паўсядзённую дзейнасць". У "патэнцыяльныя ворагі" была залічана значная частка былых удзельнікаў камуністычнага падполля, членаў КПЗБ, прадстаўнікоў розных катэгорый насельніцтва. Зноў на паверхню выйшлі "контррэвалюцыйныя дыверсійна-паўстанцкія арганізацыі".

4 снежня 1939 года Вілейка стала абласным цэнтрам. Былая турма стала ўнутранай турмой НКУС на 210 зняволеных. У ёй размяшчаліся "ворагі народа". Немалаважная дэталь: у адпаведнасці з актам праверкі вілейскай турмы ад 14 мая 1940 года, у ёй утрымлівалася 910 зняволеных, сярод іх за органамі НКУС значылася 854. На тэрыторыі вобласці было створана яшчэ 7 турмаў.

радкі з пратакола пасяджэння Бюро ЦК КП(б)Б ад 22 чэрвеня 1941 года:

"СЛУХАЛІ: Аб зняволеных, якія ўтрымліваюцца ў турмах заходніх абласцей, прыгавораных да ВМП.

ПАСТАНАВІЛІ: Даручыць тт. Цанаве і Матвееву перадаць дырэктыву аб выкананні прыгавораў у адносінах да асуджаных да ВМП, якія ўтрымліваюцца ў турмах заходніх абласцей БССР".

Таму ў першыя дні вайны органы НКУС думалі не пра тое, каб кожны патрон быў пакінуты для ворага, а як своечасова выканаць загад аб знішчэнні практычна ўсіх зняволеных, асуджаных за "контррэвалюцыйныя злачынствы". Відавочцы яшчэ помняць, як 22 чэрвеня 1941 года з Вілейкі на Полацк пагналі этап з 1,5--2 тысячамі зняволеных, як ахова бязлітасна расстрэльвала іх па дарозе, як 24 чэрвеня іх прыгналі назад у Вілейку (гэта тлумачыцца тым, што немцы перарэзалі чыгунку на Полацк, і па ўказанню з Мінска іх пагналі назад. -- **І.К.**). І ёсць тыя, хто яшчэ помніць, як тых, хто застаўся жывым, расстралялі ў двары турмы за некалькі гадзін да прыходу нямецкіх войск...

Прайшлі гады, і мы сталі забываць, што татальнае насілле, знішчаючы адных, адначасова калечыць душы астатніх. Гэта заўсёды злачынства супраць усіх, супраць кожнага. Тое, што ў чалавеку ёсць годнасць, знікае і запаўняецца страхам. І гэтая маральная сутнасць перадаецца ў спадчыну. Вось і магчымы адказ на рытарычнае пытанне: што з намі адбываецца. Больш правільна -- адбылося.

А людзі, пазбаўленыя пачуцця чалавечай годнасці, ператвараюцца ў аморфную пластылінавую масу, з якой можна ляпіць усё, што хочаш, нават тое, што супярэчыць здароваму сэнсу і сумленню.

Але ў нашым "самым перадавым" на свеце светапоглядзе не ў вялікай пашане былі і застаюцца такія катэгорыі, як павага да памяці мёртвых і міласэрнасць да жывых, цярпімасць і дараванне, грэх і раскаянне.

Кожны бязвінна загублены і з абыякавасцю забыты -- незалежна ад таго, якім дыктатарскім рэжымам гэта зроблена -- гітлераўскім ці сталінскім, -- сведчанне маральнага адзічэння народа, і страшна, калі падлік ідзе на дзесяткі, сотні тысяч і нават на мільёны.

Тое, што адбылося і адбываецца ў Вілейцы, яшчэ раз пацвярджае: ёсць нешта, што выходзіць за межы чалавечага разумення ў тым, што родная зямля не прыняла людскія астанкі, не ўвабрала іх у сябе, не дала прарасці ім травой і дрэвамі, але захавала іх, нібыта выпрабоўваючы нас на сумленнасць: "Вось што вы робіце, людзі!"

І пачынае здавацца, што людзі, у якіх у імя нашага невялікага дастатку былі адабраны жыцці, а пасля жыцця -- права на памяць і магільны камень, так і не зніклі. Не маглі знікнуць, таму што быў парушаны той глыбінны закон чалавечага быцця, у адпаведнасці з якім чалавеку належыць прыйсці ў гэты свет, жыць у ім і памерці, саступаючы месца сваім дзецям, унукам і праўнукам. А гэтых людзей не проста забілі. Ім не далі жыць. Іх забралі з кругазвароту прыроды. Забылі і зрабілі ўсё, каб не ўспамінаць. Пра гэта сведчыць знікненне невядома калі ўстаноўленай пасля вайны драўлянай мемарыяльнай шыльдачкі на будынку цяперашняга анкалагічнага дыспансера аб тым, што тут у гады нямецка-фашысцкай акупацыі было знішчана каля 7 тысяч жыхароў Вілейкі. І, відавочна, гэтае пытанне зусім не цікавіць мясцовыя ўлады і па сённяшні дзень.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

**КОЖНАЕ ДЗІЦЯ Ў ДУХОЎНЫМ РАЗВІЦЦІ**

**ПАВІННА ПРАЙСЦІ ПРАЗ МАЛЯВАННЕ**

# СУГУЧНАСЦЬ

Непаўторныя гукі музыкі Баха хвалююць кожнага светлай і незямной прыгажосцю, кранаюць самыя патаемныя куточкі душы, нараджаюць новыя думкі, пачуцці, разважанні над існасцю быцця, над прызначэннем і роллю чалавека на зямлі, над нязведанымі касмічнымі прасторамі. Увасабленне космасу ў чароўных гуках аргана, створаных геніяльным мастаком, дапамагае адчуць сябе мікрачасцінкай сусвету... Пасля гучыць дзівосна лірычная мелодыя Моцарта, бессмяротныя санаты Бетховена, творы Вівальдзі, Шапэна, Брамса, Равеля, Гайдна, Чайкоўскага...

Нехта з чытачоў, відаць, уявіў сабе канцэртную залу ў філармоніі, дзе адбываецца сустрэча з выдатнымі творамі музычнага мастацтва. Але павінна расчараваць вас, бо прыгожая музыка гучыць на занятках у народнай студыі выяўленчага мастацтва Палаца культуры "Юнацтва" Гродзенскага вытворчага прадзільна-ніткачнага аб'яднання. Існуе гэты цікавы і неардынарны калектыў ужо восем гадоў. Назва студыі "Сугучнасць". Перш чым расказаць пра юных мастакоў з старажытнага горада над Нёманам, паспрабую растлумачыць, чаму менавіта "Сугучнасць".

"Сугучнасць" -- гэта гармонія колеру, музыкі і душы.

"Сугучнасць" -- гэта свабода мыслення і свабода творчасці.

"Сугучнасць" -- гэта добрыя і шчырыя адносіны паміж дзецьмі двухгадовага і сямнаццацігадовага ўзросту.

"Сугучнасць" -- гэта дзівосны свет дзіцячага малюнка і радасць творчасці.

"Сугучнасць" -- гэта поўны [illegible]р дзецям; кожны студыец -- творчая Асоба.

У студыі займаюцца каля пацідзесяці дзяцей. За восем гадоў нехта пакідаў заняткі праз некалькі месяцаў, хтосьці і цяпер працуе з тых часін. Часцей за ўсё студыю пакідалі, як я кажу, бацькі, а не дзеці. Чаму? У нашым грамадстве на працягу доўгіх гадоў "навучалі", а галоўная задача гэтай студыі -- развіваць тое, што дадзена самой прыродай чалавеку. А калі і навучыць, то шляхам свабоды мыслення ў сугучнасці з свабодай творчасці і абавязкова ў дачыненні да музычнага і народнага мастацтва. Бацька адной дзяўчынкі амаль абурыўся, калі ягоная Танечка намалявала зайчыка ўсімі колерамі вясёлкі. З пункту гледжання таты, гэта неразумна, а дзівак-настаўнік і ўсе навокал у захапленні ад малюнка... Часам дзеці пакідалі калектыў пасля чарговай выставы: убачыўшы іх творы ў экспазіцыі, некаторыя дарослыя лічылі, што гэта "ўжо вяршыня" і хопіць грошы плаціць за непатрэбныя заняткі. У грошах за навучанне шмат праблем, але пра гэта крышачку пазней.

За восем гадоў студыйцамі створана больш за... 20 тысяч (!) дзівосна прыгожых, непаўторных жывапісных і графічных работ. Яны экспанаваліся ў Англіі, Германіі, Эфіопіі, Чэхаславакіі, ЗША, Сенегале, Сьера-Леоне, В'етнаме, Венгрыі і іншых краінах далёкага і блізкага замежжа.

Студыйцы з вялікім задавальненнем удзельнічаюць у разнастайных конкурсах, сярод якіх Міжнародны конкурс "Вясёлка-90" (Балатон, Венгрыя), Міжнародны конкурс дзіцячага музычнага і выяўленчага мастацтва "Славянская міфалогія" (Перм), Міжнародны конкурс "Выратуй і захавай" (Масква).

У 1990 годзе ўпершыню ў горадзе, а магчыма, у краіне адбылася выстава твораў толькі трохгадовых аўтараў, якая для многіх наведвальнікаў была проста сенсацыйнай. Асабліва незабыўнае ўражанне мелі гледачы ад цудоўных малюнкаў Мар'яны Маліноўскай, яна ж і адкрывала тую незвычайную экспазіцыю. Некаторыя творы маленькай Машы і яе сяброў былі змешчаны на старонках часопіса "Мастацтва Беларусі" (N 4, 1991). Пастаянна дзейнічае выстава ў самой студыі. Усе сцены яе ўпрыгожаны рознакаляровымі малюнкамі, якія мяняюцца амаль кожны дзень, як у калейдаскопе, ажно дух захоплівае. Сапраўдная мастацкая галерэя.

Мінулай вясною адбылося дзве першыя персанальныя выставы ў студыі "Сугучнасць". Больш за 50 твораў Волечкі Мартышавай сталі нечаканым адкрыццём для гараджан і гасцей горада.



Дзяўчынцы было дзесяць гадоў. Неардынарнаяў сваім светаўспрыманні, працавітая Волечка што б ні малявала -- міфалагічную русалку, казачна прыгожую царыцу-ноч, сабаку, лебедзя ці вечаровы краявід, -- у кожным творы юнай мастачкі прысутнічае касмічны пачатак, нейкая боская прыгажосць, надзвычайная жывапіснасць і цудоўная графіка. Сапраўды -- сугучнасць таленту і душы. Трэба дадаць, што ў пяцігадовым узросце Волечка стала дыпламантам Міжнароднага конкурсу дзіцячага малюнка, які праходзіў у Венгрыі. Першы ў яе жыцці дыплом -- на замежнай мове...

На другой аўтарскай выставе экспанаваліся надзвычай сімвалічныя работы Аксаны Волах, адной з "ветэранаў" студыі, бо займаецца яна тут ужо восем гадоў. Філасофская глыбіня, жыццесцвярджальнасць, складаны каларыт, разнастайнасць кампазіцыйнага і пластычнага вырашэння сведчаць пра высокі мастацкі ўзровень не па-дзіцячаму сур'ёзных твораў юнай мастачкі. Псіхалогія душы чалавека прываблівае шаснаццацігадовага аўтара, таму не дзіўна, што многія яе працы ўражваюць спецыялістаў-псіхолагаў. Па творах Аксаны Волах і Вольгі Мартышавай выкладчыкі чытаюць своеасаблівыя лекцыі для студэнтаў універсітэта. Кандыдат філасофскіх навук, дацэнт Л.Гусакоўская даволі часта наведвае студыю на працягу амаль усіх гадоў яе існавання і лічыць неабходным прыводзіць сюды як псіхолагаў, так і фізікаў. Вельмі часта здараецца так, што яна пакідае сваіх студэнтаў у студыі яшчэ на некалькі незапланаваных гадзін, бо тыя... бяруць паперу, пэндзлі, фарбы і сядаюць побач з дзецьмі.

**НА ЗДЫМКУ: юны мастак Вадзім Іоч.**

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

*ДА 150-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Івана ЧЭРСКАГА*

# ІМЯ ЯГО ЎСПРЫМАЕЦЦА ЯК СІМВАЛ

Сусветная навука адзначае 150-годдзе з дня нараджэння вялікага вучонага-прыродазнаўцы і падарожніка, выдатнага сына зямлі беларускай Івана Чэрскага.

І.Чэрскі нарадзіўся 3 (15) мая 1845 года ў радавым маёнтку "Сволна" Дрысенскага павета Віцебскай губерні (цяпер Верхнядзвінскі раён Віцебскай вобласці), у сям'і беларускага шляхціца. Ён атрымаў выдатную "арыстакратычную" адукацыю (бацькі самым сур'ёзным чынам клапаціліся аб яго салонным выхаванні), дасканала валодаў французскай, нямецкай, англійскай і лацінскай мовамі.

У Вільні ён працягнуў сваю адукацыю ва Урадавым (дваранскім) інстытуце (1860--1863). Усебаковая адукаванасць юнака ўражвала тых, хто яго акружаў. Ён не ведаў сабе роўных у бальных танцах, выдатна музіцыраваў на фартэпіяна, пісаў пейзажы -- ва ўсім праяўляліся яго высокія здольнасці да свецкага жыцця.

Праз тры гады ён з юнацкім запалам уступіў пад сцягі Кастуся Каліноўскага, быў арыштаваны за ўдзел у вызваленчым руху і асуджаны Віцебскім ваеннапалявым судом на бестэрміновую ссылку ў Сібір з канфіскацыяй маёнтка (бацька памёр у 1855 годзе) з пазбаўленнем дваранскага звання.

На шляху да месца ссылкі (горад Омск) І.Чэрскі зблізіўся з адным з паплечнікаў К.Каліноўскага, вядомым геолагам А.Чэканоўскім (1833--1876), які абудзіў у ім цікавасць да праблем геалагічнай геаграфіі. Гэтая сустрэча стала лёсаноснай, яна прадвызначыла далейшы жыццёвы шлях І.Чэрскага. Гады знаходжання ў омскай ссылцы сталі гадамі настойлівага вывучэння прыродазнаўчых навук. Гэтаму садзейнічалі "творчыя сувязі" з падарожнікам Р.Патаніным і бібліяфілам В.Квяткоўскім, якія жылі ў Омску.

У 1869 годзе ў сувязі з хваробай сэрца І.Чэрскі быў пераведзены з казармы лінейнага батальёна (дзе ён служыў рэкрутам) на вольнае пасяленне ў Омску. Чэрскі адразу ж звярнуўся да пецярбургскіх улад з прашэннем аб пераездзе ў Казань для паступлення ва універсітэт. Аднак у гэты час ва універсітэцкіх цэнтрах Расіі бурліў падпольны рэвалюцыйны рух, і ссыльны ў студэнцкай форме для царскіх саноўнікаў быў непажаданы. Яму адмовілі.

З'яўляецца яго першая навуковая работа "Нарыс геагнастычнай будовы наваколляў г. Омска", якая абвяргала сцвярджэнне славутага нямецкага прыродазнаўцы А.Гумбальта (1769--1859) аб тым, што ў геалагічным мінулым Паўночны Ледавіты акіян злучаўся з Аральскім, Каспійскім, Чорным і Міжземным морамі. Гэта быў значны поспех маладога даследчыка, адзначаны ў сталічных колах. Па хадайніцтву акадэміка А.Мідэндорфа (1815--1894) Чэрскага пераводзяць восенню 1871 года на вольнае пасяленне ў Іркуцк -- "сталіцу Сібіры", цэнтр золатапрамыслоўцаў і ссыльных вучоных -- для работы ў Сібірскім аддзеле Расійскага Геаграфічнага таварыства.

Пасля няўдачы з Казанскім універсітэтам ён імкнуўся ў гэты горад, дзе знаходзіўся адзіны (на вялікай прасторы ад Урала да Ціхага акіяна) цэнтр ведаў і асветы, навукі і культуры. Асобую групу даследчыкаў складалі выгнаннікі 1863 года і сярод іх -- ужо знаёмы яму Чэканоўскі і прафесар Варшаўскага універсітэта В.Дыбоўскі (1833-1930). Чэрскага прымаюць на працу адразу на тры пасады -- бібліятэкара, пісара і кансерватара музея; яму даручаюць экспедыцыі на тэрыторыі Іркуцкай губерні з мэтай геолага-геаграфічнага даследавання Усходняга Саяна. Амаль у кожным выпуску "Известий Географического общества" выходзяць арыгінальныя артыкулы І.Чэрскага па матэрыялах даследаванняў горных сістэм Прыбайкалля.

За геаграфічныя даследаванні яго ўзнагародж[illegible]ь сярэбраным медалём Імператарск[illegible]еаграфічнага таварыства (1876), а за геалагічныя даследаванні -- малым залатым медалём (1878).



У той час адукаваныя аўтарытэты ў галіне прыродазнаўства спрабавалі разгадаць тайну паходжання Байкала -- самага глыбокага возера ў свеце (1 637 метраў) на плошчы 32 тысячы квадратных кіламетраў, з 22 працэнтамі сусветных запасаў прэснай вады. У апошняй чвэрці XIX стагоддзя, бадай, ні адзін геолаг Расіі не быў так падрыхтаваны да даследавання праблем Байкала, як Чэрскі. І ў 1877 годзе Геаграфічнае таварыства паставіла перад ім складанейшую задачу -- комплекснае вывучэнне ўзбярэжжа Байкала па ўсяму перыметру гэтага унікальнага аб'екта прыроды. За 4 гады, на грані грамадзянскага подзвігу, Чэрскі прарабіў практычна немагчымую для аднаго чалавека работу па складанню 10-верставой геолага-геамарфалагічнай карты Байкала, што выкарыстоўвалася на практыцы аж да сярэдзіны XX стагоддзя і яшчэ сёння не страціла свайго навуковага значэння. Карта была прадстаўлена на Міжнародным Геаграфічным кангрэсе ў Венецыі, а яе аўтар заваяваў сусветную вядомасць.

Вясной 1885 года Акадэмія навук прапанавала Чэрскаму правесці шырокамаштабнае геолага-геаграфічнае абследаванне Сібірскага тракта ад Іркуцка да Урала. Зноў менавіта яму даручаецца мерапрыемства, грандыёзнае па аб'ёму работ, і справа дзяржаўнай важнасці: па экспедыцыйна-картаграфічных матэрыялах Чэрскага намячалася праектаванне Транссібірскай чыгуначнай магістралі (па яго ж матэрыялах ажыццяўлялася і праектаванне Кругабайкальскай чыгункі -- унікальнага помніка тэхнічнай думкі Расіі пачатку XX стагоддзя).

Па завяршэнні гэтай экспедыцыі Чэрскаму трэба было з'явіцца ў Пецярбург для выканання заданняў Акадэміі навук і Рускага Геаграфічнага таварыства. Гэта азначала, што РГТ нарэшце дабілася канчатковага "даравання" Ів[illegible] Дзяменцьевічу "памылак маладосц[illegible]сам Сямёнаў-Цян-Шанскі прасіў цара за Чэрскага). Яму вярталіся дваранскія правы. Канец дваццацідвухгадовай ссылцы! Юнаком пераваліў Чэрскі праз Урал, пакінуўшы за спіной беларускае неба, блізкіх людзей. І цяпер яму зноў трэба будзе перасячы Уральскія горы, але ў адваротным напрамку. Перспектыва ўбачыць Віцебшчыну прыемна сціскала хворае натруджанае сэрца.

Чэрскі з жонкай Маўрай Паўлаўнай і малалетнім сынам пакідае сталіцу "залатых міражоў" і кідаецца ў звычайную экспедыцыйную стыхію. Тут ён здзяйсняе тры маршруты ў бок ад асноўнага: на Ангары -- да Падунскага парога і ў Краснаярску -- па Енісеі і па Мінусінскай катлавіне.

Усё гэта з улікам ранейшых даследаванняў у раёне Байкальскага амфітэатра дазволіла яму ўпершыню намаляваць стройную палеагеаграфічную карціну Сібіры паміж Яблanavым і Уральскім хрыбтамі (Вялікі залаты медаль імя Ф.Літке, 1886).

(Заканчэнне на 7-й стар.).

НАПЯРЭДА[illegible]І II З'ЕЗДА МАБ

# ПАПЯРЭДНІК ПОЛЬСКАГА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСІСТАЎ

У МАІ 1995 года ў Мінску адбудзецца II з'езд МАБ (Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў). У рабоце з'езда будуць удзельнічаць і сябры Польскага таварыства беларусістаў, якое з'яўляецца членам МАБ. Польскае таварыства беларусістаў (яго ўзначальвае прафесар А.Баршчэўскі) аб'ядноўвае навукоўцаў Польшчы, якія займаюцца беларускай праблематыкай: літаратуразнаўцаў, гісторыкаў, перакладчыкаў беларускай літаратуры. З нагоды II з'езда МАБ варта тут прыгадаць, што перадваеннай папярэдніцай польскіх беларусістаў была арганізацыя пад назвай "Кола сяброў беларусазнаўства" пры універсітэце імя Стэфана Баторыя ў Вільні.

"Кола..." было заснавана вясной 1931 года. Яно ставіла сваёй мэтай пашырэнне і паглыбленне ведаў у галіне беларусазнаўства (мова, літаратура, гісторыя, этнаграфія); навуковую дапамогу пры даследаваннях праблем беларусазнаўства; падтрыманне пастаяннай сувязі з беларусазнаўчым рухам у іншых вучэльнях Польшчы. Сродкамі для дасягнення вызначаных вышэй мэтаў былі: а/ дакладная ацэнка і справаздача аб працах у вызначаным перыядзе; б/ даследаванне найлепшых прац у галіне беларусазнаўства; в/ самастойныя даклады і выступленні сяброў "Кола..." у гэтай галіне; г/ выданне рукапісаў, навуковых прац; д/ знаёмства з віленскімі архівамі, музеямі, бібліятэкамі, а таксама тэатрам і арганізацыя прэсы; е/ утрыманне адпаведнай беларусазнаўчай бібліятэкі; ж/ кантакты з выдавецкімі фірмамі; з/ карэспандэнцыя і абмен думкамі з беларусазнаўчымі коламі ў іншых універсітэтах Польшчы.

Ініцыятарам заснавання "Кола..." быў д-р Ян Станкевіч, куратарам -- прафесар Кохшмідэр, а старшынёй -- тады яшчэ студэнт Станіслаў Станкевіч, будучы гісторык літаратуры, даследчык польска-беларускіх літаратурных сувязей.

Сябры "Кола..." (а іх налічвалася 20) рыхтавалі навуковыя рэфераты. На пасяджэнні ў аўдыторыю Віленскага універсітэта звычайна прыходзіла чалавек 40. У 1933 годзе з навуковымі дакладамі выступілі д-р Ян Станкевіч, магістр права М.Шкялёнак, д-р М.Чарнецкі, Р.Шырма. Актыўнымі былі таксама студэнты С.Станкевіч, Пецюкевіч, Ільяшэвіч, Хвораст, Тумаш і Давідовіч.

Дзякуючы намаганням "Кола сяброў беларусазнаўства" ў Вільні 7 мая 1933 адбыўся літаратурны вечар тагачасных заходнебеларускіх паэтаў. Пасля ўступнага слова пра беларускую літаратуру, якое зрабіў Станіслаў Станкевіч, прагучалі творы Н.Арсенневай, Я.Быліны, Х.Ільяшэвіча, М.Машары, М.Васілька, Я.Вількоўшчыка. Мэтай гэтага вечара было азнаямленне шырэйшых колаў грамадства з сучаснай беларускай літаратурай Заходняй Беларусі, г.зн. з абшараў, якія належалі тады Польшчы.

Трэба падкрэсліць, што тагачасная беларуская літаратура Заходняй Беларусі з-за надта цяжкіх умоў культурнага жыцця беларусаў знаходзілася толькі на пачатку свайго развіцця. Аднак літаратурны рух меў вялікае значэнне ў агульным працэсе літаратурнага жыцця беларусаў.

Найбольш таленавітай і вядомай паэткай у 30-х гадах у Заходняй Беларусі была, несумненна, Наталля Арсеннева. У 1927 годзе выйшла яе кніжка "Пад сінім небам", пазней з'явіўся шэраг твораў у беларускіх часопісах. Тагачасная беларуская крытыка сцвярджала, што крыніцай паэзіі Арсенневай з'яўляецца краса прыроды, а таксама свет народнай творчасці і фантазіі. Найбольшую мастацкую вартасць маюць яе творы, якія грунтуюцца на народных матывах. Складаюць яны асобны цыкл, які называецца "Зачараваны кут".

Акрамя Арсенневай на пачатку 30-х гадоў сваім талентам выдзяляўся Міхась Машара. Падкрэслівалася, што гэта лірык. Народныя і грамадскія матывы выступалі ў творах Машары тых гадоў. Лірыка паэта вызначалася страснай замілаванасцю да роднага краю, а таксама ідэяй самаахвярнага служэння свайму народу. Вершы Машара пачаў пісаць у польскай турме, дзе сядзеў за прыналежнасць да Грамады. У 1928 годзе выйшаў яго зборнік лірыкі "Малюнкі". У Вільню Машара прыехаў з Дзісеншчыны. І даволі хутка набыў розгалас як таленавіты паэт.

"Кола сяброў беларусазнаўства" папулярызавала таксама паэзію Хведара Ільяшэвіча. Пра яго творчасць пісалі, што яна вельмі сучасная, асаблівая ўвага звярталася на гарадскія матывы, рэдкія наогул у тагачаснай беларускай літаратуры. Шмат гаварылася пра яго два зборнікі паэзіі -- "Веснапесьні" (1929) і "Зорным шляхам" (1932).

На беларускіх вечарынах чыталіся вершы Міхася Васілька (Касцевіча). Падкрэслівалася, што творы яго носяць сумны і меланхалічны характар. У 1929 годзе М.Васілёк паспеў выдаць зборнік вершаў "Шум баравы".

Самым маладым паэтам, якому сябры "Кола..." удзялілі шмат увагі, быў Язэп Вількоўшчык. Не меў ён яшчэ выдадзенай кніжкі вершаў, але быў ужо вядомы з публікацый у часопісах "Нёман" і "Шлях моладзі". У той перыяд згадвалася творчасць гумарыста Янкі Быліны, а таксама проза Станіслава Грынкевіча і Аўгена Бартуля.

У тым жа 1933 годзе сябры "Кола..." наважыліся падрыхтаваць дыскусійныя рэфераты на тэмы: "Друкарня Мамонічаў" і "Жанчына ў беларускай літаратуры".

У пазнейшыя гады сябры беларусазнаўчага "Кола..." рыхтавалі як літаратурныя, так і этнаграфічныя вечары. Акрамя гэтага дзейнічалі гістарычная, філалагічная і этнаграфічная секцыі. "Пшэглёнд Віленьскі", які вельмі прыязна ставіўся да беларускага руху на Віленшчыне і Наваградчыне, у 1933 годзе пісаў: "Трэба з задавальненнем адзначыць, што "Кола сяброў беларусазнаўства", мяркуючы па яго дзейнасці, дае спадзяванні на далейшае яго пашырэнне. Гарантыяй далейшага поступу ёсць факт, што характар прац "Кола..." чыста навуковы, значыць -- апалітычны". Гэта мае вялікае значэнне, калі ўзяць пад увагу наступныя акалічнасці: значная частка беларускай інтэлігенцыі знаходзіцца пад уплывам, а часам і ў залежнасці ад беларускіх палітычных дзеячаў, варагуючых паміж сабой. Любая спроба супрацоўніцтва з той інтэлігенцыяй на ґрунце пазауніверсітэцкім часцей за ўсё выклікае абвінавачанне ў скрытых палітычных тэндэнцыях з таго ці іншага боку, выклікае недавер і апасенні быць абвінавачанымі ў нелаяльнасці да тых дзеячаў, якія надта рупліва змагаюцца за ўплыў на моладзь, асабліва студэнцкую.

Можна быць упэўненым, што ў цяперашняй сітуацыі, пакуль "Кола..." кіруецца дэмакратычнымі прынцыпамі, г.зн. пакуль не дамінуюць там палітычныя і асабістыя амбіцыі адзінак, ніякая небяспека ўнутранага расколу яму не пагражае. Застаецца толькі пажадаць, каб беларуская грамадскасць у Вільні, нягледзячы на палітычныя пытанні, маральна і нават матэрыяльна падтрымлівала гэты карысны і сімпатычны асяродак.

Дзейнасць "Кола сяброў беларусазнаўства" была вельмі карыснай, і найлепей "Кола..." працавала тады, калі ва універсітэце імя Стэфана Баторыя вучыўся Станіслаў Станкевіч. З гэтага "Кола..." выйшла перад вайной некалькі вядомых вучоных, якія глыбока ведалі беларускую культуру і літаратуру. А значыць, можна смела сцвярджаць, што плённая гэта арганізацыя была папярэдніцай Польскага таварыства беларусістаў, якое дзейнічае цяпер у Польшчы.

**Мечыслаў ЯЦКЕВІЧ.**
Ольштын.

## СТАРОНКІ ЖАЛОБЫ

Друкаваным помнікам усім, хто загінуў на тэрыторыі беларускай зямлі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, стане рэспубліканская кніга "Памяць. Беларусь", якую выдала напярэдадні 50-годдзя Вялікай Перамогі выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя П.Броўкі.

Прэзентацыя гэтага унікальнага і адзінага ў СНД і дзяржавах Еўропы энцыклапедычнага выдання, якое ўшаноўвае ўсе месцы пахавання воінаў, антыфашыстаў і партызан, а таксама мірных жыхароў сваёй краіны, адбылася 12 красавіка ў Міністэрстве культуры і друку.

Новую кнігу прадставілі шырокай грамадскасці міністр А.Бутэвіч, дырэктар выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя П.Броўкі Б.Сачанка, дырэктар Інстытута гісторыі АН Беларусі М.Касцюк, іншыя ўдзельнікі прэзентацыі.

## МАГІЛЁЎСКІЯ ПРЭМ'ЕРЫ

Другі раз за гэты тэатральны сезон парадаваў сваіх прыхільнікаў прэм'ерай Магілёўскі тэатр-студыя В.Ермаловіча. Спачатку быў спектакль па апавяданні Васіля Быкава "На чорных лядах", а зараз "Пан міністр" па п'есе Францішка Аляхновіча. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі рэжысёр В.Ермаловіч, які падчас прэм'еры адсвяткаваў сваё 70-годдзе, пры дапамозе гарадской рады ТБМ і гарадскога Дома культуры аб'яднаў аднадумцаў, патрыётаў Бацькаўшчыны, тых, хто любіць тэатр і жадае несці беларускасць да людзей праз сцэну. Таму шчырая ігра самадзейных акцёраў і актуальны для сённяшніх дзён змест спектакляў былі цёпла сустрэты шматлікімі гледачамі.

# ЖЫВУ БЕЛАРУШЧЫНАЙ, ТЫМ І ШЧАСЛІВЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Суд будзе, але ты можаш вярнуцца да Бога. Вельмі гуманная рэлігія.

**-- Давай, Анатоль, пагаворым яшчэ пра мову. Ты ж сапраўды прысвяціў ёй жыццё, вучыў і вучыш роднай мове іншых.**

— Як пачалася беларусізацыя, я падрыхтаваў некалькі ўрокаў "Чытаем і гаворым па-беларуску", і некалькі такіх урокаў надрукаваў у "Маладосці". Гэта быў 1991 год. Прапанаваў я ўрокі і на тэлебачанні. Тэмы іх -- сям'я, школа, розныя галіны штодзённага жыцця. Пачынаў з вітанняў. Найчасцей чую, як людзі вітаюцца: добры дзень, добрай раніцы. Слова раніца ў нас ёсць, але так па-нашаму не вітаюцца. Некалі маці будзіла: "Уставай, ужо дзень!" Па-беларуску гавораць: добрага дня табе, добры дзень табе. "Да-пабачэн-ня" -- гэта языкаломка. У нас гавораць: бывайце здаровы, дабранач. Чытаў перапіску пісьменнікаў. Ні ў Янкі Купалы, ні ў Якуба Коласа, ні ў Чорнага ніколі не сустрэнеш "да пабачэння". На слова "дзякуй" нельга адказваць "калі ласка". Калі ласка -- гэта "зрабі ласку". У самой этымалогіі слоў гучыць ласка, калі мы просім. А каб адказаць на падзяку, ёсць цэлы россып самых розных слоў і выразаў: "няма за што", "спажывай на здароўе", "насі здаровы", "расці здаровы".

**-- Часта даводзіцца чуць, што мова наша грубая і недасканалая. Але калі слухаеш, напрыклад, Янку Брыля, зведваеш асалоду. У яго беларускае слова гучыць, як музыка, мякка, задушэўна, арганічна. А бывае ў час гаворкі чалавек спрабуе перакладаць з рускай мовы на беларускую, то яму самому цяжка гаварыць, слухаць яго пакутліва.**

-- Таму мне і хацелася ў "Гутарках" даць жывыя народныя выразы і засцерагчы ад калькі, бяздумнага ўжывання слоў. "Буквар" чаму ў мяне напісаўся? Бо я бацька траіх дзяцей і для кожнага бацькі наступае момант, калі ён становіцца настаўнікам.

**-- А ты ж і сапраўды настаўнік. Да універсітэта заканчваў Навагрудскае педвучылішча. Яно ў той час было беларускім!**

— Не, яго толькі называлі беларускім. Успамінаю, як настаўнік па фізіцы, які да мяне добра адносіўся, казаў мне, што не паставіць адзнаку, калі буду гаварыць па-беларуску.

Знаёмства са Сцяпанам Александровічам многа мне дало. Пазнаёміўся я з ім, калі ён з Сабаленкам прыязджаў з Баранавіч да нас у педвучылішча, потым яго перавялі ў Наваельню. І мы з Чамярыцкім паехалі да яго, а назад не было машыны, дык мы пехатою паўночы ішлі 20 кіламетраў. Так гарэлі гэтай беларушчынай.

**-- А ў нас Сцяпан Аляксандравіч выкладаў, здаецца, у 5-м ці 6-м класе ў навагрудскай школе беларускую мову. Але ж мы тады не ведалі свайго шчасця. І толькі пасля універсітэта я зразумела, які гэта быў выдатны чалавек.**

— Што ж, бывае і так.

Ну, а што тычыцца "Буквара"... У 68-м годзе аб'явілі конкурс. Я ўзяўся ствараць "Буквар", і так мне пашанцавала, што я перамог у кс[illegible]осе.

**-- І колькі разоў [illegible]аго часу перавыдаваўся твой "Буквар"!**

— Упершыню выйшаў ён у 69- м годзе і з нязначнымі зменамі перавыдаецца кожны год. Сёлета ў верасні б[illegible] 27-мы школьны год "Бу[illegible]ра". Да напісання яго я ме[illegible] нейкае ўнутранае пабуджэнне, хаця праца была вельмі нялёгкай. На "Буквары" глядзелі як на кнігу для навучання чытанню, і таму яны былі сумныя і казённыя. А мне хацелася даць у ім і гумар, і прыказку, і прымаўку, гульні розныя, пацешкі. Хацелася, каб дзіця вучылася на сваіх вершах -- Багдановіча, Коласа. Калі прыдумваў тэксты, стараўся, каб і граматыка ў іх была, і ўлічваў выхаваўчы момант. У дарэвалюцыйных "Букварах" не было такіх тэкстаў.

**-- А, наогул, улічваў вопыт тых першых, дарэвалюцыйных беларускіх "Буквароў"! Напрыклад, лемантара Цёткі!**

-- Усе паглядзеў. І Цёткі, і Паўловіча. У нас гісторыя ў гэтым плане цікавая, гераічная нават. Успомніў Багдановіча, які ў сухотнай гарачцы пры тэмпературы 38 градусаў сядзеў над ілюстраваннем "Буквара" для дзяцей. Можа, ніякая кніга так не павязваецца з нацыянальным адраджэннем, як "Буквар". Непісьменны народ па-за палітыкай, гаварыў яшчэ Ленін.

**-- За "Буквар" маеш багата ўзнагарод. Медалі -- залаты і сярэбраны, нават на міжнародных выставах. А за што атрымаў медаль Францыска Скарыны!**

— За мастацкі нарыс "Францыск Скарына, альбо Як да нас прыйшла кніга". Праца выйшла ў 1983 годзе, і, як на той час, кніга была вельмі патрэбная. Яна мела вялікі тыраж і хутка разышлася. Гэта цяпер пра Скарыну многа напісана. Нават энцыклапедыя Скарынаўская выдадзена, а тады мне давялося расшукваць матэрыял, каб расказаць пра першадрукара беларускага, пра тое, як прыйшла да нас кніга. Бяскрыўдны тэкст быў, і палітыкай там нават не пахла, а мне галоўліту давялося на 15 старонках даваць тлумачэнні.

**-- Як думаеш, ці не вяртаюцца зноў тыя ж змрочныя часы! Здаецца, усё валіцца, страчваем нават тое, чаго дамагліся за кароткі час паслаблення.**

-- Упэўнены, што немагчыма ўсё знішчыць. Помню сябе ў 70-я гады, так мучылі падобныя пытанні, што ночы не спаў. Тупік і ўсё.

А цяпер выраслі новыя людзі. І многа свядомых. Ёсць беларускія першыя класы, і нямала іх. У 68-м годзе, калі трэба было напісаць артыкул па беларускай гісторыі, па пальцах можна было палічыць тых, хто ёю займаўся. А цяпер вунь колькі ў нас сваіх гісторыкаў. Ідзе нейкі дзіўны працэс, які намагчыма спыніць або павярнуць так, як некаму патрэбна. Нават калі здарыцца самае горшае і пасля рэферэндуму запануе двухмоўе, беларускую ж мову не адмяняюць, ставяць нароўні з рускай. А не было ж нічога.

**-- А чаму ўсё ж у беларусаў так блага развіта пачуццё нацыянальнай свядомасці!**

-- Мяне абурае такое пытанне, таму што лічу, што мы не горшыя за грузінаў, эстонцаў, літоўцаў, палякаў. Проста ў нас былі іншыя гістарычныя ўмовы. І да 1905 года ўсе гэтыя народы прыгняталіся, іх мовы прыгняталіся, але яны існавалі, з цяжкасцю, але друкаваліся газеты, кнігі на польскай, літоўскай, грузінскай мовах. Рэальна да рэвалюцыі 1905 года на тэрыторыі Расійскай імперыі беларуская мова была забаронена. Назва Беларусь забаронена -- быў Севера-Западны край. Прыгнёт нараджае пратэст, а адмаўленне -- нявер'е. Да мовы патрэбна яшчэ і гісторыя, тады гэта сіла. А што мы мелі, які ў нас быў падручнік па гісторыі? Ластоўскі, Ігнатоўскі, потым і іх не стала. Карацей, беларуская абыякавасць гістарычна вытлумачваецца. І я ніколі не глядзеў на народ як на вінаватага, не абвінавачваў яго, што ён мову разлюбіў. Не ўсё гэта свядома атрымалася. Хачу яшчэ зазначыць, што блізкасць рускай і беларускай мовы не бяда. З аднаго боку, бяда, але і ратунак. Зрусіфікаванаму казаху цяжэй вярнуцца да казахскай мовы, чым зрусіфікаванаму беларусу да сваёй роднай, беларускай.

Я спадзяюся на лепшае, на новае пакаленне спадзяюся. Трэба ўваткнуць сцяг, а вакол яго абавязкова збяруцца людзі.

**Гутарыла Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

# МАЕ ДЗЯДЫ І РАДАЎНІЦЫ

## З ТАГО СВЕТУ...

Спыняюся каля пашарэлых знаёмых помнікаў, часам з пабітымі партрэтамі нябожчыкаў, і ўспамінаю да драбніц аблічча, галасы, паходку, зімовую і летнюю апратку, колішнія вясёлыя размовы, сумесныя паездкі, шчырыя прыцішаныя гаворкі на кухні, выступленні на літаратурных вечарах. Успамінаю ўдоў і асірацелых дзяцей, часам званю радні вельмі блізкіх сяброў, а іх усё менш і менш.

Асабліва ўрэзалася ў памяць першая страта ў нашай маладой літаратуры — смерць любімага моладдзю дваццаціпяцігадовага Паўлюка Труса. Вакол яго магілы ўзніклі своеасаблівыя "літаратарскія масткі" на даўно закрытых колішніх Вайсковых могілках на Даўгабродскай вуліцы. Я часта хаджу туды, адведваю знаёмыя магілы, успамінаю, успамінаю, часам заходжу ў царкву Аляксандра Неўскага, стаўлю свечку ў памяць тых, хто знайшоў вечны супакой на гэтых кладах.

Звычайна ад варот іду направа, праціскаюся сярод шчыльных агароджаў да магілы Паўлюка Труса. Жывога яго я ўжо не застаў, а яго абедзьве кніжачкі "Вершы" і "Ветры буйныя" амаль цалкам ведаў на памяць. Яны мне нагадвалі то Купалу, то Шаўчэнку, то Ясеніна, а сутнасць была свая, непаўтор[illegible] вершы запаміналіся самі [illegible]ю. "Падаюць сняжынкі — [illegible]ыяменты росы, падаюць бялюткі за маім вакном". Я амаль усю паэму памятаю з 1927 года. У 1980 годзе ў Вятцы, на Днях літаратуры, маскоўскі паэт Уладзімір Карпека чытаў [illegible] па памяці амаль увесь [illegible]эсяты падмурак". У дзяцінс[illegible] ён жыў і вучыўся ў Беларусі, збярог мову і паэзію.

А такой жалобы, як 30 жніўня 1929 года ў дзень смерці Труса я больш і не прыпомню. Дзве, а то і тры старонкі ўсіх рэспубліканскіх газет выйшлі ў чорных рамках. На першай паласе — вялікі партрэт паэта ў вышыванай кашулі, жалобныя паведамленні ЦК КП(б)Б, ЦВК, Саўнаркома, пісьменніцкіх суполак, грамадскіх арганізацый, устаноў, улюбёных у яго творчасць чытачоў, успаміны сяброў, рэдакцый, у "Звяздзе" цэлая старонка вершаў, прысвечаных яго памяці. Дагэтуль помняцца радкі Юлія Таўбіна: "Так проста, жорстка і сталёва чыясьці моцная каса ударыла... І труцяць словы: "Няма Труса". Былі пранікнёныя вершы Глебкі, Звонака і маладзейшых паэтаў.

Ва ўсіх клубах, ва ўсіх школах рэспублікі праходзілі жалобныя вечары. У нашай Глускай школе была інсцэніраваная кампазіцыя амаль па ўсіх вершах Труса. Так Беларусь журылася па сваім паэце -- аўтары двух тоненькіх зборнікаў вершаў. Потым усе часопісы друкавалі артыкулы пра лёс і творчасць Труса. Асабліва запомнілася ў "Маладняку" пранікнёнае памінальнае слова Міколы Аляхновіча.

На два крокі ад магілы Труса -- помнік з чорнага граніту. На ім -- невялічкі барэльеф і надпіс: "Мікалай Карлавіч Раманоўскі (Кузьма Чорны) 1902--1944". Божа мой! У такім узросце пакінуў гэты свет амаль з першых твораў класік нашай прозы. Яму не шанцавала на пераклады, бо такой каларытнай, такой вобразнай, глыбінна народнай мовы пакуль што не змог наблізіць да арыгінала ніводзін перакладчык. Досціп, інтанацыя, афарыстычнасць кожнага сказа чорнаўскіх персанажаў стваралі жывыя непаўторныя вобразы папярэднікаў, сучаснікаў, сяброў па цімкавіцкіх буднях і святах, і гэта мог перадаць толькі талент такога мастака, як Кузьма Чорны.

Гэтае імя я адкрыў хлапчуком недзе ў 1926 годзе, калі пачала выходзіць кніжніца (бібліятэчка) "Маладняка". У ёй першым з'явіўся зборнічак вершаў Міхася Чарота "Завіруха", потым паэма Дубоўкі "Там, дзе кіпарысы", наступная -- "Апавяданні" Кузьмы Чорнага. Я яе праглынуў адразу. Дасюль не забылася апавяданне "Мяшчане ў густой пары". Я ў ім пазнаваў і нашу мястэчковую лазню, але не заўважаў таго, што так востра ўбачыў аўтар і з такім досціпам напісаў.

Жывога Чорнага ўпершыню ўбачыў у 1931 годзе ў Доме пісьменніка. Убачыў і здзівіўся: чаму ён, бялявы, круглатвары, у светлым гарнітуры, з прыгожым гальштукам назваў сябе Чорным. Ён быў сярэдняга росту, зграбны, заўсёды далікатны, з кіёчкам у руцэ, часта гаварыў мовою і інтанацыямі сваіх каларытных персанажаў: "Панечка мой, васпане, егамасцю", то "здаецце, смяецце", як засцянковы шляхцюк, то ўставіць дасціпную прыказку цімкавіцкіх кажушнікаў, жабракоў ці шаўцоў. З выгляду выкшталцоны інтэлігент, а часам прыкінецца вясковым прастарэкам. Пра сур'ёзнае гаварыў павольна, удумліва, на дакладнай літаратурнай мове. Хадзіў ён шпарка, памахваючы кійком, ветліва вітаўся з знаёмымі, часам заўважаў і нас, жаўтаротых пачаткоўцаў.

Не памятаю, каб у Доме пісьменніка, дзе на канапах часта паэты і празаікі гаварылі і спрачаліся пра літаратуру, Чорны сур'ёзна ўстраваў у гаворку, ён вельмі ўмела і далікатна ўсё зводзіў на жарт, пераходзячы на трапныя рэплікі з арсенала сваіх герояў, на каларытныя цімкавіцкія прыгаворкі. Ён адразу станавіўся вышэй наіўнай і дробязнай валтузні вакол рэчаў, не вартых жаднай увагі.

Апынуўшыся ў няволі, я амаль нічога не ведаў пра лёс Чорнага. Яго арыштавалі значна пазней, і раней за нас ён неяк усё ж вылузаўся. Пасля першай адсідкі я рызыкнуў нелегальна заскочыць у Мінск. Пазбягаў сустрэч з даўнімі знаёмымі і ўсё ж выпадкова напаткаў Макара Паслядовіча і Анатоля Астрэйку. Ад іх даведаўся, што і Чорны каля года адпакутаваў на канвеерах у следчых і ў турэмных казематах. Збітага і змардаванага, перад вайною яго ўсё ж выпусцілі. Саслабелы і хворы, у вайну ён жыў у Маскве, пісаў баявую публіцыстыку і новыя раманы. У 1944 годзе прыехаў у зруйнаваны Мінск, жыў на нейкіх прытычках, здалёк пазіраў на растлусцелых чыноўных варацілаў і ў лістападзе 1944 года памёр.

Я падоўгу стаю каля яго магілы, успамінаю ўсе драбніцы даўніх і кароткіх сустрэч з гэтым выдатнейшым мастаком, гляджу на перакулены слоік з засохлымі сцяблінкамі асыпаных кветак, на счарнелае леташняе бадылле і думаю, думаю. Каб яму было суджана пражыць хоць бы яшчэ 20 гадоў, ён бы стварыў падобную на бальзакаўскую галерэю вобразаў сваіх папярэднікаў і сучаснікаў. Чэкісты бездараў не чапалі, такіх, як Чорны, дабівалі паленам па чэраве, дубінаю, загорнутаю ў "Праўду". Колькі б яго раманаў упрыгожыла наша пісьменства, якія б галерэі вобразаў ён стварыў для нас і наступных пакаленняў, як глыбока і маляўніча раскрыў бы душу беларускага народа!

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

**Працяг. Пачатак у № 18.**

# СУГУЧНАСЦЬ

(Заканчэнне.
Пачатак на 4-й стар.).

Некаторыя адкрываюць у сабе здольнасці, пра якія раней не здагадваліся, а іншыя з сумам канстатуюць, якімі "закамплексаванымі" яны выраслі і як складана стварыць нешта без "тэмы". Дзеці вельмі шчаслівыя, калі побач з імі малююць дарослыя. А колькі было радасці, калі аднойчы каля трох гадзін за суседнімі мальбертамі малявалі свае карціны галандзец Арнольд Шаўтэн, амерыканец Майкл О'Ліры, англічане Наім Картацы, Робін Крыстоферсан і абаяльная Зоя Коргейт. Гучала класічная музыка, спавяў сваю песню самавар, узмахвалі крыламі саламяныя птушкі, мяняў графічны малюнак саламяны павучок пад столлю, а яны ўсе шчыра і апантана крочылі па сцежцы творчасці. Развітваючыся з "Сугучнасцю", Арнольд Шаўтэн сказаў: "Творы ў студыі такія высокамастацкія, што не кожная галерэя з вядомых мне можа пахваліцца такім узроўнем".

Восем гадоў таму прывялі ў Палац культуры "Юнацтва" пяцігадовую бялявую дзяўчынку Юлечку Чэкэль. Ёсць жаданне маляваць, а галоўнае ў бацькоў ёсць жаданне духоўна развіваць дачушку. Прайшлі гады натхнёнай працы ў "Сугучнасці". Творы Юлі, якой цяпер ужо 12 гадоў, не проста прыгожыя, яны таленавітыя, выкананы амаль на прафесійным узроўні. Незвычайна складаныя кампазіцыі стварае Юлечка разам з Паўлікам Крыловым. Але часцей яны малююць паасобку, у кожнага ёсць свой почырк, а творы сумесныя -- гармонія пачуццяў, думак, колеру. Юля з Паўлікам малююць, быццам гуляючы ў фарбы, але гэта толькі вонкавае ўражанне, бо занадта змястоўныя іх творы.

Пяшчотнымі адценнямі фарбаў уражваюць работы сястрычак Вольгі і Алены Чарнікевіч. Воля, дарэчы, першая ў рэспубліцы атрымала стыпендыю ад Дзіцячага фонду Беларусі, шкада, што чамусьці перасталі грошы пералічваць дзяўчынцы



апошнім часам, бо ёй, інваліду з дзяцінства, яны, як нікому, патрэбны. Працуе Воля па-ранейшаму шчыра, натхнёна. Леначка ж у захапленні ад грацыёзных постацей коней. А яшчэ дзяўчынка захапляецца мастацтвам вышыўкі і карункапляцення. Які цудоўны альбом можна было б выдаць толькі з карцін сястрычак Чарнікевіч.

Радасць творчасці, вясёлы смех, жарты, гарбата з лясных зёлак -- усё гэта вы знойдзеце, калі пажадаеце, у народнай студыі выяўленчага мастацтва "Сугучнасць".

Няхай даруюць аўт[illegible] дзеці і дарослыя, бо немагчыма ў невялічкім артыкуле расказаць пра ўсё і пра ўсіх.

Але "Сугучнасць" -- гэта светлы, добры, утульны, яскравы і па-свойму унікальн[illegible]точак, дзе ствараюцца патр[illegible]ыя для развіцця творчай асобы ўмовы, дзе ўладарыць узаемаразуменне і шчырасць, што дапамагае духоўнаму развіццю і ўдасканаленню чалавека. У студыю прымаюць усіх жадаючых. Наведванне заняткаў -- вольнае. Час іх для кожнага доўжыцца ў залежнасці ад настрою, натхнення, жадання. Можна прыйсці і не маляваць, а толькі паслухаць любімую мелодыю ці проста выпіць кубачак духмянай гарбаты і паназіраць, як малююць іншыя. Адзіная ўмова -- не перашкаджаць працаваць сябрам.

"Сугучнасць" -- гэта святочны востраў у акіяне штодзённасці. Ніякай тэматыкі, ніякіх указаў з боку настаўніка, ніякага "дарослага" дыктату. Абсалютная свабода мыслення і творчасці. Дзецям неабходны сам працэс творчасці, а не канчатковы яго вынік, як таго жадаюць большасць тат і матуль.

Ну вось быццам коратка і ўсё пра студыю выяўленчага мастацтва, што жыве і працуе ў Гародні, калі б не адно "але"...

Студыя існуе на самаакупляемасці, настаўнік атрымлівае сімвалічны заробак, дзеці ідуць на заняткі са сваімі матэрыяламі... Тыя, хто бачыў творы дзяцей з "Сугучнасці", здзіўлена паціскаюць плячыма: "Як такія карціны не паказваць у свеце?!" Паказваць? А як? Нават у горадзе наладзіць выставу няпроста, бо работы трэба, як кажуць мастакі, "апрануць" у рамкі са шклом. Дзе там ужо будзе марыць пра выставу недзе ў Еўропе. Разумеем: час складаны для нашай краіны, але дзеці растуць, яны не могуць чакаць... Застаецца спадзявацца на Усявышняга і на тое, што магчыма знойдзецца чалавек ці арганізацыя, якія маюць грошы і разумеюць, што наша будучыня -- гэта нашы дзеці, якім цяпер трэба стварыць умовы, каб яны развіваліся, станавіліся Асобамі. Дарэчы, спецыялісты многіх краін даказваюць, што кожны чалавек у сваім фізічным, псіхалагічным і духоўным развіцці павінен прайсці праз маляванне, бо ён у год ці два не здольны пісаць, чытаць, ствараць музыку,.. а аловак ці пэндзаль трымае з задавальненнем.

Калі некага зацікавіла "Сугучнасць", калі ласка, прыязджайце ў старажытную Гародню, падтрымайце матэрыяльна юныя таленты, а ў іх асобах нашу культуру, якой заўсёды не хапала сродкаў, а ў цяперашнія часіны асабліва. Мы будзем удзячныя кожнаму, хто праявіць увагу.

**Валянціна ВОЛАХ,**
**кіраўнік народнай студыі выяўленчага мастацтва "Сугучнасць".**

**НА ЗДЫМКАХ: работы Ірыны ГРЫШКЕВІЧ "Конь" і Наташы БАСАЦКАЙ "Анёл".**



**Віктар Шабасовіч -- у мінулым выкладчык гісторыі, а цяпер навуковы супрацоўнік Мазырскага краязнаўчага музея. Ён многа робіць, узнаўляючы гісторыю палескага краю. Асабліва цікавіць яго Мазыр, першае летапіснае ўпамінанне пра горад адносіцца да 1155 года. За многія стагоддзі над Мазыром прашумела нямала бур, горад не раз перажываў часы ўпадку і росквіту.**

**Адкрыць як мага больш новых, цікавых, дакладных старонак у гісторыі палескага горада і стараецца Віктар Шабасовіч.**

**НА ЗДЫМКАХ: Віктар ШАБАСОВІЧ са званамі, якія ўпрыгожвалі некалі званіцы размешчаных вакол Мазыра храмаў; так выглядаў Мазыр 345 гадоў назад (рэпрадукцыя).**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**



## ДОМ НАРОДНЫХ ПРОМЫСЛАЎ

Дом народных промыслаў -- новае грамадскае ўтварэнне. Першыя яго выхадам "на людзі" з'яўляецца выстава ў Доме дружбы і культурнай сувязі. Тут прадстаўлены вырабы як з традыцыйных (лён, саломка), так і з сучасных матэрыялаў, выстаўлены кераміка, бацік, роспіс па дрэву, ручная вышыўка, гафтаванне, ювелірныя вырабы.

Многія студыі, галерэі, гурткі сталіцы і рэспублікі атрымалі магчымасць паказаць лепшае, што створана народнымі ўмельцамі.

Дырэктар Дома народных промыслаў Л.Шыршова галоўную мэту дзейнасці азначыла як служэнне нацыянальнай культуры, дабру і прыгажосці. Ганаровым прэзідэнтам стала наша тэлезорка Зінаіда Бандарэнка, а сродкі на выставу выдзеліў "Прыюрбанк".

# ІМЯ ЯГО ЎСПРЫМАЕЦЦА ЯК СІМВАЛ

(Заканчэнне.
Пачатак на 5-й стар.).

Перадавыя вучоныя Пецярбурга радасна сустрэлі Чэрскага на берагах Нявы. Яму была прапанавана работа ў Заалагічным музеі Акадэміі навук (яго інтарэсы ў галіне палеанталогіі і заалогіі заўсёды спадарожнічалі геалагічным); з улікам стану здароўя (хранічная хвароба сэрца, астма, туберкулёз, рэўматызм) кабінетная 16-гадзінная работа стала ўдвая прыцягальнай. Адусюль ён атрымлівае прыемныя прапановы выступіць з дакладам, адрэдагаваць кнігу, напісаць артыкул. "Найлепшы знаўца Сібіры" -- рэпутацыя, што адразу зацвердзілася за Чэрскім у вучоных колах расійскай сталіцы.

Чэрскі пражыў у Санкт-Пецярбургу пяць гадоў (1886--1891). У гэты перыяд ён па рэкамендацыі прэзідэнта РГТ П.Сямёнава-Цян-Шанскага поўнасцю "перапісвае" старое мнагатомнае "Землеведение Азии" Карла Рытэра (1779--1859) на падставе ўласных шматгадовых даследаванняў Усходняй Сібіры. У параўнанні з вульгарным геаграфізмам Рытэра погляды Чэрскага на фізіка-геаграфічныя ўмовы Сібіры з'явіліся глыбока прагрэсіўнымі і пераканаўчымі. Наватарства яго заключалася ў комплексным даследаванні праблем з шырокіх фізіка-геаграфічных пазіцый ва ўсеагульнай сувязі і ўзаемазалежнасці прыродных з'яў. Многія яго працы, і цяпер не страціўшы навуковай каштоўнасці (тэорыя эвалюцыйнага развіцця рэльефу, палеатэктанічная схема Усходняй Сібіры, араграфічная схема Паўночнай Азіі, ідэя ўзаемасувязі кліматалогіі і палеанталогіі ў даследаваннях ледніковага перыяду як дапаўненне да тэорыі П.Крапоткіна, гіпотэза паходжання Байкала з удакладненнямі У.Обручава і інш.), здабылі палкаму і апантанаму даследчыку рэпутацыю "геалагічнага географа" і падарожніка сусветнага маштабу.

Зімой 1891 года І.Чэрскі па заданню Акадэміі навук адпраўляецца з Пецярбурга ў Калыма-Індыгірскую экспедыцыю па амаль не даследаванаму краю Сібіры, што заставаўся белай плямай на геаграфічнай карце Расіі. Рашэнне зусім хворага вучонага адправіцца ў шматгадовую экспедыцыю на суровы паўночны ўсход Сібіры (з жонкай і 12-гадовым сынам) сёння, у век авіялайнераў і надзейнай радыёсувязі, успрымаецца як акт вялікай грамадзянскай мужнасці. Тут асабліва каштоўнымі аказаліся геаграфічныя меркаванні Чэрскага па горных збудаваннях паміж Верхаянскім хрыбтом і ракой Калымой. У блытаніне рознанакіраваных горных ланцугоў, перасечаных яго экспедыцыяй летам 1891 года, яму ўдалося выявіць галоўную заканамернасць. Гэтыя меркаванні, пакладзеныя на карту, былі поўнасцю пацверджаны ў XX стагоддзі больш аснашчанай экспедыцыяй С.Обручава, па прапанове якога гэтая горная краіна працягласцю 1 500 кіламетраў была названа "хрыбтом Чэрскага".

25 чэрвеня 1892 года стан здароўя Івана Дзяменцьевіча рэзка пагоршыўся, і ён памёр на экспедыцыйным баркасе ў нізоўях ракі Калымы, за 150 кіламетраў ад канчатковага пункта Ніжне-Калымск. Тры дні не сунімалася бура, і ўвесь гэты час асірацелыя падарожнікі капалі магілу для начальніка экспедыцыі -- у вечнай мерзлаце зямлю давялося сячы тапаром. 1 ліпеня М.Чэрская хавае 47-гадовага мужа ў заімцы ля вусця Амалона -- прытока Калымы. Яна давяла экспедыцыю да Ніжне-Калымска (цяпер пасёлак Чэрскі) і даставіла экспедыцыйныя матэрыялы ў Іркуцк. Вестка пра смерць Чэрскага была перададзена па тэлеграфу ў сталіцу Расіі і адразу ж знайшла водгук у расійскім грамадстве.

Заслугі Івана Чэрскага перад Айчынай назаўсёды ўвайшлі ў сусветную скарбніцу геаграфічных адкрыццяў і здзяйсненняў. Яго імем названы горныя вяршыны, яшчэ адзін хрыбет (у Забайкаллі, 800 кіламетраў), вулкан ва Усходнім Саяне.

Ля падножжа вулкана Чэрскага б'е крыніца, што не замярзае зімой, а пік Чэрскага на Байкальскім хрыбце адбівае ў водах Свяшчэннага Байкала слаўнае імя яго. Само гэта імя міжволі бударажыць думкі і пачуцці, успрымаецца як сімвал. Чэрскі вялікі і як падарожнік, і як вучоны, і як грамадзянін-патрыёт. Яшчэ пры жыцці заслужыў ён сусветную славу, але яна так і не закранула яго -- прайшла міма, як лёгкае воблачка над сібірскай тайгой. Чалавек трагічнага лёсу, ён пражыў усё сваё свядомае жыццё ўдалечыні ад Беларусі, але заўсёды быў верны Бацькаўшчыне.

**Валерый ЯРМОЛЕНКА,**
**горны інжынер,**
**доктар геаграфічных навук.**

# ГІСТОРЫЯ НА ПАШТОВЫХ ШТЭМПЕЛЯХ

У канцы 50-х -- пачатку 60-х гадоў у СССР узрасла масавая цікавасць да філатэліі. Гэта стала магчымым не толькі дзякуючы некаторай лібералізацыі тагачаснага жыцця -- так званай адлізе, але і прайшоўшаму ў Маскве VI Сусветнаму фестывалю моладзі і студэнтаў (1957 год). У праграме гэтага фес-




120 лет
со дня рождения
белорусского
поэта-демократа
Ф.К БОГУШЕВИЧА
1840-21-III 1960

тывалю праводзіліся традыцыйныя вялікія філатэлістычныя мерапрыемствы -- выстаўкі марак, сустрэчы філатэлістаў, абмен філатэлістычнымі матэрыяламі. Філатэлістычны рух у краіне, разгромлены ў канцы 30-х гадоў як "буржуазны перажытак" і "арганізацыя шпіёнаў" (перапіска з замежжам), атрымаў своеасаблівы штуршок да адраджэння. Узнікшыя ў краіне шматлікія клубы філатэлістаў і калекцыянераў спрабавалі заявіць пра сябе, наладзіць нейкую работу. Адным з элементаў гэтага адраджэння было масавае захапленне так званымі клубнымі спецыяльнымі гашэннямі. Гэтыя гашэнні былі не паштовага паходжання, не афіцыйныя, зробленыя па ініцыятыве клубаў калекцыянераў. У іх кожны клуб бачыў не толькі вынік сваёй дзейнасці, але і некаторую магчымасць фінансавай падтрымкі.

Клуб калекцыянераў у Мінску таксама ўзнік у канцы 50-х гадоў. Ён аб'яднаў філатэлістаў, нумізматаў, збіральнікаў паштовак. Тут і была ўтворана спецыяльная група энтузіястаў, якая займалася распрацоўкай тэматычных гашэнняў, вырабам штэмпеляў, распаўсюджваннем спецыяльных гашэнняў. Стараннямі гэтай групы з 1955 па 1963 год было ажыццёўлена 75 спецыяльных клубных гашэнняў, прысвечаных розным падзеям, аб якіх дзяржаўная пошта забылася. Так, у сакавіку 1960 года Мінскі клуб калекцыянераў адзначыў спецыяльным гашэннем 120-годдзе з дня нараджэння Францішка Багушэвіча, у жніўні таго ж года быў выкарыстаны спецыяльны штэмпель, што расказваў аб з'ездзе настаўнікаў рэспублікі. Былі адзначаны некаторыя спартыўныя мерапрыемствы -- аўтаралі ДТСААФ рэспублікі, спартакіяда школьнікаў, 10-я велагонка, традыцыйная мінская выстаўка кветак і інш. У 1961 годзе ў Мінску праходзіла I Мінская гарадская канферэнцыя таварыства аховы прыроды. Гэта падзея знайшла сваё адлюстраванне ў спецыяльным штэмпелі Мінскага клуба калекцыянераў. У 1962 годзе споўнілася 1100 гадоў самаму старажытнаму гораду Беларусі -- Полацку. Дзяржаўная пошта не адгукнулася на гэты юбілей ні выпускам маркі, ні канверта ці штэмпеля. Філатэлісты Мінска самі вырабілі спецыяльны штэмпель з датамі "862--1962" і тэкстам "1100 год Полацку".

Большасць жа спецыяльных штэмпеляў Мінскага клуба калекцыянераў была прысвечана касмічным даследаванням. Такая была даніна модзе таго часу.

Пік клубных гашэнняў прыпаў на пачатак 80-х гадоў. Цікавасць да іх паступова знікала. Адной з прычын сталася тое, што дзяржаўная пошта рэзка выступіла супраць клубных гашэнняў, таму што нярэдка іх вытворчасць была бескантрольнай і клубы адзначалі гашэннямі тыя падзеі, якія не заўсёды падтрымлівалі ўлады. Пошта СССР наладзіла выпуск дзяржаўных спецыяльных гашэнняў у вялікай колькасці, што таксама аслабіла цікавасць да клубных гашэнняў.

Як бы сёння філатэлісты ні ставіліся да клубных гашэнняў 50—60-х гадоў, гэта частка гісторыі філатэлістычнага руху ў рэспубліцы. І ўпэўнена можна сказаць, што клубныя гашэнні паўплывалі на развіццё беларускай філатэліі. Сёння, калі афіцыйная пошта па нейкіх прычынах адмаўляецца адзначыць той ці іншы юбілей у гісторыі рэспублікі ці падтрымаць якія-небудзь філатэлістычныя мерапрыемствы — філатэлісты зноў выкарыстоўваюць практыку неафіцыйных клубных гашэнняў. І прыкладаў такіх дастаткова. У маі 1990 года філатэлісты Гродна і Беластока (Польшча) правodзілі сумесную філатэлістычную выставу і з гэтай нагоды прымянялі




спецыяльнае га[illegible]нне. Філатэлісты Оршы ў снежн[illegible] года адзначылі спецыяльным га[illegible]ннем 925-гадовы юбілей свайго горада. У жніўні 1994 года споўнілася 175 год з дня нараджэння вядомага беларускага этнографа і археолага Адама Кіркора. Пошта рэспублікі ніяк не адгукнулася на гэты юбілей. Філатэлісты Магілёва правялі неафіцыйнае гашэнне, у малюнку штэмпеля -- старадаўні скрутак, чарніліца з гусіным пяром і тэкст: "175 год з дня нараджэння Адама Кіркора. Магілёў. 1.08.94".

А мінскія філатэлісты правялі гашэнні, прысвечаныя XVII зімнім Алімпійскім гульням у Ліпехамеры і выпуску марак з адлюстраваннем птушак з Чырвонай кнігі Беларусі. Нядаўна споўнілася 875 год з дня нараджэння беларускай асветніцы Ефрасінні Полацкай. Гэты юбілей быў адзначаны магілёўскімі філатэлістамі вельмі арыгінальна. Для спецыяльнага гашэння яны прымянілі два штэмпелі. Адзін з адлюстраваннем крыжа і надпісам "875 год Ефрасінні Полацкай. Магілёў. 1995". Як вядома, славуты крыж да 1941 года захоўваўся ў Магілёве, і ў гэтым горадзе згубляюцца яго сляды. Другі штэмпель гэтага цікавага гашэння складаецца толькі з тэксту, які гаворыць: "У 1929--41 гадах крыж Ефрасінні Полацкай захоўваўся ў Магілёве".

Неафіцыйныя спецыяльныя гашэнні -- гэта своеасаблівая старонка ў гісторыі беларускай філатэліі.

**Леў КОЛАСАЎ.**







**Сёлета ў Гомелі прайшла [illegible]ава лялек майстра Марыны Скіда[illegible] [illegible]даўно захапілася яна стварэннем разнастайных лялек з пап'е-машэ. Захапленне стала галоўнай справай яе жыцця. У калекцыі Марыны, створанай за апошнія гады, самыя розныя вобразы і героі казак. І ў той жа час кожная лялька нібы нясе на сабе адбітак стану душы м[illegible]а, яго настрою. Ёсць у калекцыі вясёлыя і задумлівыя, сумныя і хітрыя цацкі, але ўсе створаны любоўю і фантазіяй аўтара.**

**НА ЗДЫМКАХ: Марына СКІДАН на выставе; работы Марыны Скідан: "Каралева", "Рыжавокая дзяўчынка".**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## ДАРАГІЯ СУАЙЧЫННІКІ, БРАТЫ-БЕЛАРУСЫ БЛІЗКАГА І ДАЛЁКАГА ЗАМЕЖЖА!

## АБВЯШЧАЕЦЦА ТВОРЧЫ ЛІТАРАТУРНЫ КОНКУРС "МЫ Ў СПАКОНВЕЧНАЙ І ЧАСОВАЙ ІСНАСЦІ"

Вядома, чалавек заўжды нясе адметнае наканаванне, ідзе толькі сваім шляхам, набывае непаўторны вопыт. Жыццёвыя акалічнасці, усё больш жорсткія, вымагаюць засяроджання на індывідуальным, культывуюць яго як самадастатковае.

Ды хіба ж можа выкасавацца дарэшты ў кожным з нас глыбіннае, радаводнае?

Ёсць моманты -- а цяпер, безумоўна, якраз такі, -- калі ўзнікае асаблівая патрэба адчуваць сябе ўперш не адзінкаю, а часцінкаю, іншымі словамі, не забыцца, што мы прадстаўнікі беларускага роду, якому не павінна быць зводу.

Шматлікія выпрабаванні абумоўліваюць спрэчкі, звады, перашкаджаюць супольнаму самаўсведамленню і ўзаемапаразуменню. Але, насуперак усяму такому, давайце разам шукаць сапраўдныя каардынаты быцця беларусаў як этнасу ў часе і прасторы, давайце паспрабуем згадаць рысы свайго духоўнага генатыпу, давайце задумаемся пра каштоўнасці, якія ў спадчыну атрымалі і якія абавязаны перадаць наступнікам.

**УМОВЫ КОНКУРСУ, АДПАВЕДНА, ФАРМУЛЮЮЦЦА ТАК:**

*Запрашаем да ўдзелу ўсіх, незалежна ад творчага стажу, аўтарытэту, эстэтычных і палітычных арыентацый.*

*Чакаем твораў любых жанраў, толькі каб змест перадаваў асабістае сведчанне пра беларускасць у праявах як станоўчых, так і адмоўных. Пажаданы аб'ём -- да 0,5 аўт. аркуша.*

*Тэрміны прыёму твораў -- з 1 мая па 1 лістапада 1995 года.*

*Вартае ўвагі будзе надрукавана ў бюлетэні "РІД" і газеце "Голас Радзімы".*

*Лепшае плануецца выдаць асобнай кнігай.*

*Журы складаецца з прафесійных пісьменнікаў: Алеся Разанава, Алеся Траяноўскага, Івана Чароты.*

**Адрас Аргкамітэта: Рэспубліка Беларусь, 220041, Мінск, Б.Хмяльніцкага, 10а, тэл./факс: (0172) 682-959, "РІД". Пазначаць: на конкурс "Мы".**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1385. Падпісана да друку 6. 5.1995 г.